№ 35 (728) 21 верасня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ…

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурод… …зіць штотыднёва,



## «Лепш за «Барселону» ніхто ў свеце не трымае мяч»

А слабое месца каманды — антрапаметрыя. Старонка 8.

# «Для дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь»

15 верасня пачаўся працэс па справе тэрактаў. **Старонкі 9-10.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Даляр за 8000. Будзе падаць ці расці?

Залежыць ад таго, **ці дадуць валюту бізнэсу**, ці толькі ў абменнікі.

14 верасня, пасля паўгадавога чакання, улады абвесцілі «рынкавы курс» даляра. Па выніках дадатковай сесіі на Беларускай валютна-фондавай біржы Нацбанк спыніў яго на ўзроўні 8600 рублёў за даляр. Тым самым была засведчана фактычная дэвальвацыя нацыяльнай валюты яшчэ на 61%. Гэта нават больш, чым было ў маі.

Пытанне 1. **Ці з’яўляецца курс рынкавым?**

Дадатковая сесія, вызначыўшы нібыта рынкавы курс валюты, пакінула пасля сябе шмат пытанняў.

Перад правядзеннем дадатковай сесіі Нацбанк дэклараваў, што будзе вызначаца цалкам рынкавы курс, маўляў, ніякіх абмежаванняў попыту і прапановы не будзе.

**Працяг на старонцы 5.**

**У аўторак даляр апусціўся да 8030**

Хоць яшчэ ў панядзелак курс даляра складаў 8460 рублёў. За дзень рубель узмацніўся на 5%. Адна з магчымых версій умацавання рубля — патрэба прадпрыемстваў сплаціць падаткі (да 21-га дня месяца). З іншага боку, рэкордна плюсавое сальда замежнага гандлю (старонка 5) дае магчымасць спадзявацца на ўмацаванне нацыянальнай валюты.

**Не быць скотам**

### «Любы кіраваў бы краінай лепш за Лукашэнку»

Міхалок паставіў жорсткі дыягназ. **Старонка 2.**



**Перастаноўкі**

### Васілевіч больш не генпракурор

На яго месца прызначылі Аляксандра Канюка з вайсковай калегіі. **Старонка 3.**



**Воля і пятля**

### «Казалі, усіх выпусцяць, а пра мяне забудуць»

Яшчэ адзінаццаць палітвязняў выйшлі на волю. **Старонкі 3, 7.**



**Грамадства**

### Яна ж у мяне прынцэса

Вырасціўшы «прынцэсу», бацькі самі аплачваюць яе царскае жыццё. **Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з’яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Міхалок: «Любы чалавек кіраваў бы краінай лепш за Лукашэнку»

Саліст «Ляпісаў» паставіў Лукашэнку беспрэцэдэнтна **жорсткі дыягназ**.

У відэаінтэрв'ю пасля канцэрта ў Санкт-Пецярбургу (Расія) лідар забароненага ў Беларусі гурта «Ляпіс Трубяцкой» Сяргей Міхалок дазволіў сабе ахарактарызаваць Лукашэнку так, як даўно ўжо ніхто не асмельваўся.

Міхалок заявіў: «Ніякі ён не прэзідэнт — чалавек, які ненавідзіць свой народ». Гэтыя словы сталі нібы рэхам выказванняў самога Лукашэнкі пра тое, што «апазіцыя ненавідзіць свой народ».

Лукашэнку Міхалок назваў «мярзотным дзеячам, які давёў краіну да краю». (Згадаем «казлоў» і «шалудзівых».) «Любы чалавек кіраваў бы краінай лепш за Лукашэнку», — упэўнены Міхалок.

Самае страшнае, мяркуе Міхалок, што Лукашэнка раскалоў нацыю і распальвае пачуццё варожасці да ўсіх нязгодных. «Я хачу, каб мае ўнукі свабодна хадзілі па родным горадзе і гаварылі на роднай мове, чыталі Янку Купалу і Якуба Коласа», — казаў Міхалок.

«Я просты чалавек, не палітык, але цяпер я ведаю, што трэба біцца, у мяне няма іншага выйсця, я адчуваю радасць жыцця ад гэтага», — патлумачыў сваю пазіцыю лідар «Ляпісаў».

**Сяргей Мікулевіч**

**Новая песня «Ляпісаў» «Не быць скотам» — старонка 11.**

# У жыхара Брэста на мяжы канфіскавалі $440 тыс.

Мужчына сцвярджае, што **грошы не яго**.

А 4-й раніцы 17 верасня ў пункце мытнага афармлення «Варшаўскі мост» быў спынены мікраўтобус «Форд-Транзіт». За рулём быў 43-гадовы жыхар Брэста, які вяртаўся з Польшчы.

Ён ужо прайшоў пашпартны кантроль і праз «зялёны калідор» накіроўваўся на выезд. Як паведамляецца на афіцыйным сайце Брэсцкай мытні, падазрэнні пра магчымы правоз кантрабанды ўзніклі пасля знаходжання пад падлогай аўтамабіля дыска сталярнай пілы.

Паглыблены агляд аўто даў нечаканы вынік: спачатку пад прыборнай панэллю мытнікі знайшлі поліэтыленавы пакет з 50 тысячамі даляраў, а затым у скрыні для пальчатак і ўнутры панэлі прыбораў знайшлі яшчэ $400 тыс.

Кіроўца сцвярджае, што знойдзеныя мытнікамі грошы яму не належаць. Кажа, што пакеты з далярамі за пэўную ўзнагароду яго папрасілі перавезці невядомыя.

На перавозчыка валюты заведзеная адміністрацыйная справа паводле ч.2 арт.14.5 КаАП. Паводле гэтага артыкула, з выяўленай сумы мытня пакідае грамадзянам толькі тую частку, якая не патрабуе дэкларавання, а рэшту канфіскуе да рашэння суда.

Пры ўвозе ў Беларусь наша заканадаўства патрабуе дэкларавання сумаў звыш $10 тысяч, пры вывазе — звыш $3 тысяч. Такім чынам, жыхару Брэста з $450 тысяч пакінулі 10 тысяч. На дадзены момант мытня вядзе праверку, лёс 440 тысяч даляраў вырашыць суд.

**Сямён Печанко**

**Што канфіскоўвала мытня**

Знаходка 17 верасня — найбуйнейшая за апошнія некалькі год.

**2007.** На «Варшаўскім мосце» ў мікраўтобусе, што вяртаўся з Польшчы, выявілі незадэклараваныя $265 тыс.

У цягніку Масква—Варшава грамадзянін Расіі спрабаваў утаіць больш за 150 тысяч еўра.

**2009.** Беларуска-ўкраінская мяжа, пункт «Тамашоўка». У мікраўтобусе з украінскімі грамадзянамі знойдзена каля $100 тысяч. Перад гэтым кіроўца задэклараваў усяго 195 даляраў.

**2010.** Нацыянальны аэрапорт «Мінск-2». Грамадзянін Расіі не задэклараваў больш за $100 тысяч.



Пасля доўгага перапынку ў Мінску адкрылася аўтамабільная выстава «Мотаршоу».

Сяргей Гудзілін

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісваццa праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Беларусь адмовілася ад пераходу на сонны час

Украіна таксама.

Пераход на зімовы час адмяняецца. «Рашэнне аб адмене штогадовага пераводу гадзіннікавых стрэлак прынята з мэтай узгодненага з дзяржавамі-ўдзельніцамі Мытнага саюза вылічэння часу», — тлумачыць прэс-служба Дзяржстандарта.

20 верасня адмяніць пераход на сезонны час прыняў і ўкраінскі парламент.

У пачатку 2011 г. аналагічнае рашэнне прынялі ўлады Расійскай Федэрацыі, у Казахстане ж пераход на сезонны час не ажыццяўляўся.

**СП**

## Сцісла

**Як на вайне**

27 чалавек загінулі на дарогах Беларусі за мінулыя выхадныя. Звыкла гэтая лічба ў чатыры разы меншая. Апошні сумны рэкорд быў зафіксаваны ў апошнія выхадныя жніўня, калі ў аварыях загінулі 19 чалавек. Прычына надзвычайнай колькасці аварый: яшчэ цёпла, і людзі масава ездзяць у вёскі. У той жа час ужо рана цямнее, а поначы аварый нашмат болей.

**Купала і Багдановіч рэкламуюць бялізну**

Цяпер партрэты класікаў можна пабачыць на вітрынах фірмовых крамаў «Мілавіцы». Побач з імі — радкі з лірыкі кахання гэтых паэтаў. Такую канцэпцыю рэкламы прыдумаў сабе вядомы беларускі брэнд.

**СГ, СП**

**Нявыглас тусаваўся ў рэстаранах Вільні, а Мартынаў у Літве працаўладкоўваў сына WikiLeaks распавёў пра «літоўскія» інтарэсы беларускіх чыноўнікаў. Чытайце на nn.by.**

**Купляйце «Нашу Ніву» ў кнігарні «Ў»**

Тым, хто бывае ля плошчы Перамогі, зручна набываць «Нашу Ніву» ў кнігарні «Ў». Яна месціцца разам з галерэяй «Ў» у двары за «Крышталём» (пр.Незалежнасці, 37а).

**Самае чытанае на nn.by за 14-20 верасня**

1. Час паліць архівы
2. Яшчэ 11 палітвязняў на волі + фоты і відэа
3. Курс даляра на біржы — 8600, еўра — 12100, расійскі рубель — 305
4. Міхалок: «Ніякі ён не прэзідэнт — чалавек, які ненавідзіць свой народ»
5. Расійскі Першы канал: Беларускі рубель у свабодным падзенні
6. Кавалёў: «Прызнавайся, атрымаеш два гады за неданясенне, інакш 25 за тэрарызм»
7. Суд па тэракце: Канавалаў прызнаў віну за выбух у метро і на 3 Ліпеня
8. Фотафакт: Дом Салея ў Драздах пустуе
9. Як можа адбыцца сыход Аляксандра Лукашэнкі?
10. Джып пратараніў канкурэнта і закінуў ва ўваход метро

# Кіруючыся прынцыпамі гуманізму

14 верасня чарговая партыя палітвязняў **выйшла на волю**.

Фармулёўка ўсё такая ж, як раней: «кіруючыся прынцыпамі гуманізму». Ёсць толькі адна характэрная адрознасць. На гэты раз з адзінаццаці вызваленых прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі падпісаў толькі Зміцер Буланаў.

На волі апынуліся такія зацятыя юнакі, як Павел Вінаградаў, Мікіта Ліхавід, Фёдар Мірзаянаў. З «Віцьбы» выйшаў прэс-сакратар Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў. Праявілі стойкасць прараб Алег Федаркевіч, рабочы Аляксандр Малчанаў, студэнт Ілля Васілевіч.

Цяпер за кратамі па справе 19 снежня засталіся толькі лідары. Кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў, Мікола Статкевіч, Дзмітры Ус. Правая рука Саннікава — Зміцер Бандарэнка, а таксама сустаршыня БХД Павел Севярынец.

Яшчэ ёсць Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, якія арыштаваныя нібыта за бойку напярэдадні выбараў.

Фактычна, Лукашэнка выконвае абяцанне, якое ён даў балгарскаму міністру замежных справаў Мікалаю Младзенаву ў жніўні, што ўсе палітвязні да кастрычніка будуць на волі.

На мінулым тыдні група беларускіх апазіцыянераў знаходзілася ў Стакгольме, дзе мела сустрэчу з кіраўніком шведскага МЗС Карлам Більтам. Па нашых звестках, Більт выказаў упэўненасць, што ўсе палітвязні выйдуць з турмаў цягам двух тыдняў.

Прычым гаворка вядзецца не толькі пра арыштаваных за Плошчу, але і пра такіх відных асобаў, як Мікалай Аўтуховіч і Алесь Бяляцкі.

«Вы не верце таму, што кажуць і пішуць. Што мы з кімсьці будзем гандлявацца так званымі палітвязнямі. Мы ні з кім не гандлюемся. Калі мы можам зрабіць нешта для палягчэння долі асуджаных, у тым ліку ў інтарэсах ЕС, то мы гэта зробім, мы зробім гэта шчыра», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў размове з кіраўніком прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Мінску Майрай Морай пасля цырымоніі ўручэння даверчых грамат.

Лукашэнка не выключаў імавернасць перазагрузкі ў адносінах Беларусі і Еўрасаюза. Тым не менш, ён паспеў запэўніць, што пакуль што краіна не знаходзіцца ў такім стане, каб «кудысьці бегчы, на калені падаць». «Мы без чыёйсьці дапамогі выкараскаемся з гэтай сітуацыі», — зазначыў кіраўнік дзяржавы.

Дарэчы, на гэтым тыдні з'явіўся поўны тэкст ліста Младзенава да кіраўніцы еўрасаюзаўскай вонкавай палітыкі Кэтрын Эштан. У прынцыпе, нічога новага ў ім, хіба што дадае некаторыя штрышкі.



«Гэтым разам памілаваныя адмовіліся пісаць прашэнні на імя Лукашэнкі.

Аляксандру Атрошчанкаву ў СІЗА КДБ абяцалі зладзіць «Гуантанама, што панне блытаць дзень і ноч».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Мая ацэнка сустрэчы была вельмі станоўчай. Прэзідэнт здаваўся шчырым у сваім памкненні перагарнуць старонку мінулага такім чынам, каб краіна магла рухацца наперад», — напісаў Младзенаў.

Многія лічаць, што інфармацыю пра таемны візіт Младзенава ў Мінск вынес на публіку польскі міністр Радаслаў Сікорскі. Тут існуе некалькі варыянтаў матывацый для такога.

Магчыма, Сікорскі кіраваўся тым, што так будзе лягчэй патрабаваць ад Лукашэнкі выканання абавязкаў. Працаўнікі такога варыянта мяркуюць, што таемная дыпламатыя магла прынесці больш вынікаў. Лукашэнка б рабіў выгляд, што ідзе на крокі з «прынцыпаў гуманнасці», а не пад нечым ціскам.

**Зміцер Панкавец**

# Кітай дае мільярд



Кітайскія будаўнікі **па кітайскіх тэхналогіях** на кітайскім абсталяванні пабудуюць прадпрыемствы, прадукцыя якіх адправіцца ў Кітай.

Урад Кітая вырашыў выдаць Беларусі яшчэ адзін крэдыт, памерам $1 мільярд, «для рэалізацыі сумесных узгодненых праектаў». У якасці бонуса наша краіна бязвыплатна атрымае 70 мільёнаў юаняў. Пра гэта заявіў старшыня пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў У Банга, які наведаў з візітам Беларусь.

Грошы выдаюцца на ўмовах шчыльнага супрацоўніцтва. Кітайскія будаўнікі па кітайскіх тэхналогіях на кітайскім абсталяванні пабудуюць прадпрыемствы, прадукцыя якіх адправіцца ў Кітай, — прыкладна так можна апісаць схему крэдытавання. Гэта чарговы з анансаваных сумесных беларуска-азіяцкіх праектаў. У канцы 2009 года Аляксандр Лукашэнка нібыта дамовіўся наконт крэдыту памерам $15 мільярдаў пад 2-3% гадавых на 20 гадоў. Аднак вялікія лічбы аказаліся пшыкам. З анансаваных тады праектаў рэалізуюцца толькі некаторыя, напрыклад, будаўніцтва Віцебскай ГЭС за $190 мільёнаў і мінскага жылога раёна «Ржавец».

Апроч таго, 18 верасня прайшла цырымонія закладкі першага каменя на месцы будаўніцтва гатэля «Пекін». Ён будзе знаходзіцца ў парку 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, на беразе ракі Свіслач каля станцыі метро «Першамайская». Пяцізоркавы гатэль будзе складацца з 207 нумароў, рэстаранаў і спартыўнага цэнтра.

**Ягор Марціновіч**

# Васілевіч страціў пасаду, генпракурорам стаў Канюк

За часамі Васілевіча Генеральная пракуратура **страціла пазіцыі** ў барацьбе з іншымі сілавікамі.

Новым генеральным пракурорам стаў 51-гадовы Аляксандр Канюк. Гродзенец, выпускнік БДУ. Апошнія два гады ён быў намеснікам старшыні Вярхоўнага Суда, кіраўніком вайсковай калегіі.

Назваць Канюка чалавекам публічным не выпадае. Адзінае, што можна адзначыць, дык гэта ліквідацыя дысбата ў войску. Гэтае пытанне курыраваў менавіта Канюк.

Што датычыць Васілевіча, то на сваёй пасадзе ён прабыў два з паловай гады. Амаль усе адзначаюць мяккасць характару генеральнага пракурора.

Выглядае, што пры ім пракуратура не была ўцягнутая ў барацьбу сілавікоў. Хаця былі і непрыемныя моманты, як арышт старшай следчай Святланы Байковай.

Першапачаткова Васілевіч бараніў сваю падначаленую, але потым стаў гаварыць, што «не трэба ідэалізаваць следчую».

Пры Васілевічу Генпракуратуру пазбавілі манаполіі на вядзенне следства, падпісання санкцый на вышуковую дзейнасць. Такія паўнамоцтвы атрымалі КДБ, міліцыя, ДФР.

Васілевіч не праяўляў цвёрдасці ў палітычных справах. »



Канюку даручана дапамагаць у стварэнні Следчага камітэта.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гэтым летам Васілевіч заклікаў міліцыянераў трымацца законнасці.

Васілевіч асцярожна пярэчыў такім новаўвядзенням, але не быў пачуты. Лукашэнка нярэдка крытыкаваў працу пракурорскіх работнікаў.

Разам з тым, Рыгор Васілевіч быў адным з нямногіх чыноўнікаў, хто адказваў на пытанні пабеларуску. Асобныя калегіі Генпракуратуры таксама праходзілі на беларускай мове.

Не выяўляў генпракурор належнай цвёрдасці і ў справах палітычных. Гэтым летам Васілевіч заклікаў «трымацца законнасці» міліцыянтаў, якія дзейнічалі на вулічных акцыях у цывільным. Ёсць меркаванне, што адставіць маглі і за гэтыя словы.

Хаця большасць меркавала, што яго месца зойме Андрэй Швед, які мільгаў у СМІ часцей за Васілевіча. Аляксандру Канюку ж даручана з «разабрацца з кадрамі» ў пракуратуры, а таксама дапамагаць у стварэнні Следчага камітэта.

**ЗП**

## Макей запрашае да сябе ў Раду Дзмітрыева, Кастусёва, Раманчука

Сябар Грамадска-кансультацыйнай рады пры Адміністрацыі прэзідэнта, старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа, што ў хуткім часе структуру чакаюць змены.

«Улады захацелі бачыць у Радзе Андрэя Дзмітрыева («Гавары праўду»), Яраслава Раманчука (АГП), Рыгора Кастусёва (Партыя БНФ). Унутры Рады існуе ініцыятыўная група з дзевяці чалавек, якую мы стварылі, каб неяк ажывіць Раду. Група была супраць прыняцця гэтых людзей. Не трэба блытаць палітычную складовую і грамадскую. Для палітычных партый трэба ствараць асобную Раду», — кажа Алег Трусаў.

Тым не менш, па яго нных словах, канчатковае рашэнне будуць прымаць прадстаўнікі ўладаў. Наступнае пасяджэнне Рады адбудзецца напрыканцы верасня.

**ЗП**

# Кіраўнік штаба Саннікава прызнаўся, што яго завербаваў КДБ

Уладзімір Кобец зрабіў гэтую заяву пасля таго, як пакінуў межы краіны.

На выбарах Кобец узначальваў штаб кандыдата Андрэя Саннікава. 21 снежня ён быў арыштаваны і змешчаны ў СІЗА КДБ па падазрэнні ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

Вызвалены ён быў 26 студзеня, напярэдадні рашэння Еўрасаюза аб санкцыях супраць беларускіх уладаў. З таго часу асаблівай актыўнасцю не вылучаўся. Справу супраць Кобеца да суда так і не давялі.

Цяпер у лісце, змешчаным на сайце «Хартыі-97», Кобец расказвае пра нюансы зняволення і вызвалення.

«На волі я апынуўся на ўмовах, пра якія расказаў Алесь Міхалевіч: распіска аб «добраахвотным» садзейнічанні органам дзяржбяспекі ў рэалізацыі імі канстытуцыйных абавязкаў. Іншага шляху з СІЗА ў тыя дні проста не было».

Кобец мяркуе, што падобныя паперы маглі падпісаць і іншыя датэрмінова вызваленыя палітыкі, апроч Халіп, Радзінай і Палажанкі.

«Толькі прафесійная дапамога спецыяліста па псіхалогіі катастроф дазволіла з часам пазбавіцца кашмараў. Я вельмі сур'ёзна паставіўся да пагрозаў, якія прагучалі ў

**Іншага шляху з СІЗА ў тыя дні проста не было. »**

дачыненні да маёй сям'і, мяне і маіх сяброў. Пагрозы гучалі і пасля «вызвалення», іх мэта — прымусіць працаваць на КДБ», — піша Кобец.

Адразу па вызваленні Кобец звярнуўся да праваабаронцаў. Ён дзячыць Алесю Бяляцкаму і Валянціну Стэфановічу за дапамогу.

Другі чалавек штаба Саннікава пацвердзіў факт катаванняў у турме. «З нас здзекаваліся байцы невядомага падраздзялення ў масках, узброеныя электрашокерамі і дубінкамі. Нас абшуквалі, прымушаючы раздзявацца дагала і прысядаць, ставілі на расцяжкі і білі чаравікамі па нагах, ганялі па крутой лесвіцы ў кайданках, абражаючы і зноў наносячы ўдары па нагах».



**Уладзімір Кобец цяпер за мяжой.**

Адзначаецца асаблівая роля ў гэтым новага начальніка СІЗА КДБ Аляксея Арлова. «Галоўнай задачай катаў было вывернуць чалавеку псіхіку так, каб яму было ўжо ўсё роўна, што падпісваць, і каб ён паверыў, што наперадзе доўгія гады тулянняў па турмах і лагерах».

Кобец кажа, што кадэбэшнікі мелі раздрукоўку ўсіх размоваў штаба Саннікава, а за самім кандыдатам вялося відэаназіранне.

«Праз дзень пасля вызвалення мне ў КДБ выдалі асобную сімкартку, абавязаўшы актываваць яе і быць пастаянна на сувязі з імі».

Кобец апавёў, што ўваходзіла ў ягоныя «новыя абавязкі»: «Прапанавалі ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах. Падобна да таго, там сабраліся стварыць фракцыю КДБ», — піша палітык.

Кобец лічыць, што ў сувязі з гэтай заявай яго могуць чакаць сур'ёзныя праблемы, але, тым не менш, ён вырашыў не маўчаць.

За старшынствам у КДБ Вадзіма Зайцава вярбоўка і катаванні сталі звычайнай справай. Прынамсі, сёлета прагучалі заявы Алеся Міхалевіча, Андрэя Саннікава, Анатоля Лябедзькі. Пра вярбоўкі казалі і менш вядомыя актывісты.

Падобнае было і раней, але ніколі не набывала настолькі вялікіх аб'ёмаў.

**Зміцер Панкавец**

**Уладзімір Кобец**

нарадзіўся 7 лістапада 1971. Вучыўся на геаграфічным факультэце БДУ, а таксама ў Акадэміі кіравання пры прэзідэнце. Працаваў у Міністэрстве прыродных рэсурсаў і абароны навакольнага асяроддзя. У 2001 быў адным з заснавальнікаў руху супраціву «Зубр». Кобец з'яўляўся адной з ключавых асобаў у «Зубры», хоць і надта публічна не свяціўся. Ён меў добрыя стасункі з моладзевымі арганізацыямі постсавецкіх краін: грузінскай «Кмарай», украінскай «Парой». Удзельнічаў ва ўкраінскім Майдане на баку Віктара Юшчанкі.

# Рымашэўскі і Вазняк пра выказванні Кобеца

Пракаментаваць гэтае выказванне Уладзіміра Кобеца мы папрасілі кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага і каардынатара «Гавары праўду» Сяргея Вазняка. Нагадаем, што іх таксама выпусцілі раней за астатніх вязняў.

«Я вітаю заяву спадара Кобеца, ён паступіў правільна, — кажа В.Рымашэўскі. — Я ведаў, што Кобец недагаворвае пасля вызвалення, і разумеў яго матывы. Уся інфармацыя, што ён выклаў, сапраўдная, ёй можна давяраць. Хаця і не цалкам поўная, асабліва, што тычыцца патрабаванняў, якія ён павінен быў выконваць.

Калі казаць пра мяне, то ніякай дамовы аб супрацоўніцтве я не падпісваў. Безумоўна, мне прыходзілі прапановы не толькі аб вызваленні, але і іншыя.

Тыя, хто сочыць за палітычным жыццём, могуць прыйсці да пэўных высноваў нават без адкрыцця архіваў КДБ. Я перакананы, што на ўладу працуюць лідары тых палітычных партый, рухаў, інтэрнэтвыданняў, газет, якія выказваліся за дыялог улады і Еўропы, а таксама падтрымлівалі выдзяленне Беларусі крэдытаў МВФ да вызвалення палітвязняў.

Да мяне ў СІЗА не ставіліся неяк па-іншаму у параўнанні з іншымі вязнямі. Магчыма, катаванняў не было толькі таму, што я вельмі кепска сябе адчуваў, губляў прытомнасць».

Сяргей Вазняк таксама адмаўляе словы Кобеца, што ён мог падпісаць дамову аб супрацоўніцтве.

«Дарма ён казаў гэтую фразу, што падпісвалі ўсе датэрмінова вызваленыя, яна кідае цень на многіх людзей. Гэта адзіная рэпліка ў артыкуле Уладзіміра, з якой я не згодны. Усё астатняе было: маскі, крыкі, мацюкі.

Мне нават не прапаноўвалі заключыць такое пагадненне. Кобец правільна піша, што з кожным працавалі індывідуальна, улічваючы псіхалагічныя асаблівасці і біяграфію. Відаць, бачылі, з кім можна дамовіцца, а з кім — не», — кажа С.Вазняк.

**ЗП**

**In memoriam**

# Галіна Сямдзянава

18 верасня ад цяжкай хваробы памерла Галіна Сямдзянава, дэпутат Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання.

Галіна Сямдзянава нарадзілася 28 лютага 1947 у Гдыні (Польшча), у сям'і марскога афіцэра і старшай аперацыйнай сястры ваеннага шпіталя.

Палітык Вінцук Вячорка ў сваім блогу адзначае: «Айчым Якаў Іванавіч Казлоў, які выхоўваў Галіну, быў ваенным лётчыкам. У вайну ягоны самалёт быў збіты, сам ён сур'ёзна паранены, аднак вярнуўся ў шыхт. Пасля вайны служыў таксама ў Беларусі, закончыў службу генерал-маёрам».

Сямдзянава працавала ў камітэце народнага кантролю ў Навагрудскім раёне. У 1990 абраная дэпутатам Вярхоўнага Савета.

Там этнічная ўкраінка, вылучэнка з раённай наменклатуры Галіна Сямдзянава далучылася да фракцыі БНФ, хоць спачатку паставілася з недаверам.

У парламенце яна спрычынілася да многіх законаў і праектаў. Напрыклад, аб стварэнні беларускага войска. Была сярод тых, хто распрацоўваў «Дэкларацыю аб суверэнітэце». Яна была першай, хто ўнёс бел-чырвона-белы сцяг у Авальную залу Вярхоўнага Савета.

«На яе можна было пакласціся. Я вельмі яе цаню у Вярхоўным Савеце. Яна магла аналізаваць і, як чалавек эмацыйны, магла паддацца эмоцыям, але эмоцыі не ўплывалі на яе розум, на высновы, на ацэнкі. У гэтым сэнсе яна была вельмі надзейнай у зале, у час сесіі. Яна выдатна бачыла сітуацыю, што адбываецца», — сказаў пра памерлую Зянон Пазняк.

Удзел у палітычным жыцці Галіна Сямдзянава брала да апошняга часу. На леташніх выбарах яна ўваходзіла ў склад Мінскай гарадской камісіі і адмовілася падпісаць афіцыйныя вынікі выбараў.

**ЗП**



**Галіна Сямдзянава (злева) была сярод тых, хто без крыві адваяваў для Беларусі незалежнасць. Да іх спачатку прыбіваўся і Аляксандр Лукашэнка.**

**Спачуванні праз сайт nn.by**

Сышла ад нас самая мужная жанчына Беларусі. Вельмі шкада! Светлая памяць! Спачуванні родным і блізкім Галіны.

**Сяргей Гоўша**

Спачуванні родным і блізкім. Дзякуй за усё...

**Святлана Панамарова**

Шчыра спачуваю родным і сваякам. Яна, як знічка, як прыклад нам, маладым юнакам і дзяўчатам, мужчынам і жанчынам, якім павінен быць і заставацца чалавек праз доўгі час! Памятаем!

**Алесь Таўстыка**

Смуткую... Балюча ад такіх заўчасных стратаў.

**Уладзімір Ляхоўскі**

Светлая памяць. Галіна Георгіеўна была высакародным, шчырым і мужным чалавекам. Ганаруся тым, што ведаў і працаваў з ёй.

**Алег Мацкевіч**

Светлая памяць спадарыні Галіне! Да апошняга верылася ў цуд, але цуды бываюць рэдка...

**Лявон Баршчэўскі**

Светлая памяць, спадарыня Галіна. Дзякуй Вам вялікі за ўвесь Ваш шлях і ўсе Вашыя словы. Цудоўны чалавек сышоў. Смуткую разам з усімі.

**Уладзімір Лабковіч**

# Даляр за 8000. Будзе падаць ці расці?

**Працяг са старонкі 1.**

Чыноўнікі рыхтавалі сябе і насельніцтва да таго, што ў першыя дні даляр скочыць уверх, а пасля будзе пакрысе апускацца. Атрыманы курс 8600 выглядаў смела, але адкуль ён узяўся? У першы ж дзень попыт на даляр склаў $57,5 мільёна пры катастрафічна нізкай прапанове. Нягледзячы на безліч незадаволеных заявак, у наступныя дні попыт дзіўным чынам нібыта зраўняўся з прапановай, што дазволіла Нацбанку кожны дзень паказальна фіксаваць умацаванне рубля. Курс даляра дзень за днём складаў 8500, 8480, 8460, 8030 рублёў.

За першыя тры дні агульны аб'ём таргоў склаў усяго $50 мільёнаў пры тым, што эксперты ацэньвалі адкладзены попыт на валюту ў гіганцкія $2,5—3 мільярды. Многія прадстаўнікі юрыдычных асобаў прызнаюць, што іх заяўкі так і не былі задаволеныя.

«Трэба паназіраць яшчэ тыдзень-два за таргамі, каб зразумець нейкую тэндэнцыю», — кажа эканаміст Інстытута прадпрымальніцтва і менеджменту Зміцер Крук. Ён не ўпэўнены, што курс адлюстроўвае сітуацыю на грашовым рынку і замежным гандлі.

### Пытанне 2. **Выгадна купляць ці прадаваць валюту?**

«На наступным тыдні магчыма рэзкае зніжэнне курсаў замежных валют, — заявіла старшыня Нацбанка Надзея Ермакова. — Наступны тыдзень — падатковы, і прадпрыемствам будуць патрэбныя беларускія рублі». Дзяржава прыкладае намаганні, каб заахвоціць беларусаў здаваць валюту. Калі верыць логіцы Ермаковай, то выгадней рабіць гэта зараз, па высокім курсе. Большасць беларусаў вырашыла рабіць менавіта так. За 14—15 верасня беларусы здалі $17,5 мільёна і купілі $4,9 мільёна.

Але што будзе ў доўгатэрміновай перспектыве? «Калі не рассмокчацца попыт, то ўся краіна вылеціць да курса і 9, і 10, і 11 тысяч рублёў за даляр. І ўсё пойдзе нанова», — мяркуе старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў Віктар Маргелаў.

А вось прадпрыемствы ўсё яшчэ не спяшаюцца пазбаўляцца валюты. Пры цяперашняй сітуацыі яны, фактычна, прадаюць даляры па 7030 рублёў. Нагадаем, што юрасобы мусяць прадаваць 30% ад валютнай выручкі па афіцыйным курсе даляра (5412 рублёў). З астатніх 70%, прададзеных па курсе дадатковай сесіі (8460 рублёў), прадпрыемствы павінны яшчэ і заплаціць «падатак на прыбытак» — 24% ад розніцы афіцыйнага і рынкавага курса.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Пытанне 3. **Што будзе з чорным рынкам?**

Курс сайта Пракапові.ч, фактычна, зраўняўся з курсам дадатковай сесіі Нацбанка. Аб'яў на ім становіцца ўсё менш, бо людзям прасцей мяняць у банку. «Значнасць сайта будзе паступова зніжацца па меры таго, як людзі ўпэўняцца, што ўсё нармальна працуе. Сумняваюся, што Пракапові.ч знікне канчаткова, бо ўсё ж існуе небяспека, што ўлады вернуцца да механізма адміністратыўнага размеркавання», — мяркуе незалежны эканаміст Сяргей Чалы.

**Ягор Марціновіч**

# Куды падзеліся рублі?

Дэфіцыт рублёў у банках: выпадковасць ці задумка? **Даляры з'явіліся** па 8000, затое прапалі рублі.

У першыя ж гадзіны пасля абвяшчэння рынкавага курса валюты многія беларусы накіраваліся ў абменнікі, але не для таго, каб купіць доўгачаканыя даляры. Яны вырашылі скарыстацца магчымасцю здаць валюту па высокім курсе — 8500—8600. Але ў многіх абменніках не было... беларускіх рублёў. Мінск, Брэст, Гродна, Валожын, Заслаўе — многія абменнікі сустракалі кліентаў рукапіснымі таблічкамі «рублёў няма». Сітуацыя паўтаралася і ў наступныя пасля дэвальвацыі дні. Ці гэта быў таямнічы план уладаў, невядома. Прапагандысты з дзяржаўных СМІ выкарысталі дэфіцыт, каб паспрабаваць даказаць вартасць рублёў, а Нацбанк абмежаваўся маўчаннем.

Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю былога старшыню праўлення Нацбанка Станіслава Багданкевіча.

**«Наша Ніва»: Дэфіцыт рублёў — гэта асэнсаваная палітыка, накіраваная на скарачэнне грашовай масы, ці адміністрацыйная недапрацоўка банкіраў?**

**Станіслаў Багданкевіч:** Я думаю, недапрацоўка. У камерцыйных банкаў заўсёды ёсць свой запас наяўных грошай. Калі чакаецца сезоннае павелічэнне попыту, напрыклад, выплата заробкаў, яны загадзя заказваюць грошы ў Нацбанку. Нацбанк таксама мае свой запас. Калі яго становіцца мала, беларускія рублі дадрукоўваюцца ў Расіі. Банкіры не чакалі, што рэзка павялічыцца попыт на рублі, яны, відаць, проста памыліліся з разлікамі. Эканамічнай праблемы я тут не бачу.

**«НН»: Ці варта чакаць, што Нацбанк пачне абмяжоўваць грашовую масу?**

**СБ:** Грашовая маса ўжо не расце так хутка, таму пэўныя дзеянні ў правільным кірунку Нацбанк усё ж робіць [на 1 жніўня ў абароце знаходзілася 34,3 трыльёна рублёў, на 1 верасня — 35,4 трыльёна рублёў — **ЯМ**]. Іншае пытанне, што Нацбанк мог бы змяншаць яе, забіраючы са звароту лішнія грошы. Трэба скарачаць колькасць крэдытаў».

**ЯМ**

## Рэкордны плюс сальда замежнага гандлю ў ліпені

Прычым **курс** тады быў яшчэ 6500.

За студзень—ліпень 2011 года сальда гандлю таварамі і паслугамі застаецца адмоўным у памеры $2,6 мільярда. Аднак гэта наступства правальных першых месяцаў. А вось у ліпені сальда склалася рэкордна плюсавым — аж на $380 мільёнаў.

Варта адзначыць, што гэта было яшчэ пры курсе чорнага рынку 6000–6500 рублёў за даляр. Можна чакаць, што ў жніўні і верасні, калі курс узляцеў да 8000–9000, сальда стане яшчэ больш плюсавым.

**Сяргей Гезгала**




## Гандлёвыя надбаўкі зноў замарозілі

Але пры гэтым **цэны могуць расці**.

Пасля абвяшчэння рынкавага курса беларускага рубля Міністэрства эканомікі вырашыла замарозіць гандлёвыя надбаўкі на сацыяльна значныя тавары. Абмежаванні будуць дзейнічаць на працягу 90 дзён, да сярэдзіны снежня. Цэны пры гэтым могуць расці, калі сабекошт прадукцыі будзе павялічвацца. У спіс трапілі мяса, сыры, крупы, соль, рыба, агуркі, памідоры, яблыкі, бананы і некаторыя іншыя прадукты.

Упершыню такую «замарозку» ўлады прымянілі ў канцы мая, пасля першай дэвальвацыі.

**ЯМ**

## Сярэдні заробак — $230

**Беларусы вярнуліся** ў лета 2005 года.

Абвесціўшы новы курс даляра на дадатковай сесіі біржы, Нацбанк прызнаў, што заробкі беларусаў у даляравым эквіваленце ўсохлі чарговы раз. Паводле апошняй статыстыкі, сярэдні налічаны заробак у Беларусі складае 1 854 500 рублёў. Па рынкавым курсе Нацбанка гэта ўсяго $230. На жаль, па гэтым паказчыку беларусы ўпэўнена займаюць апошнія месца ў Еўропе. Нашы бліжэйшыя канкурэнты, малдаване, зарабляюць нашмат больш — па $306.

Найбольшым сярэдні заробак беларусы мелі ў месяц апошніх прэзідэнцкіх выбараў, у снежні 2010 года. Тады ён склаў 1 596 тысяч рублёў ($530 у эквіваленце).

**ЯМ**

## Сцісла

### Касмічныя стаўкі

Павышэнне стаўкі рэфінансавання, якая дасягнула 30% гадавых, чарговы раз павялічыла прыбытковасць дэпазітаў. Пакласці рублі цяпер можна пад 46%, валюту — усё яшчэ пад 10—11%. Скокнулі і стаўкі па крэдытах. Рэкардсмен — «Белінвестбанк», які гатовы даць грошы пад 75%.

### Лукашэнка зноў незадаволены «Ітэрай»

Тэмпы будаўніцтва «Мінск-Сіці» катастрафічна адстаюць ад абяцаных. «Гатовы будаваць – будуйце. Не – ёсць інвестары, трэба перадаваць гэты праект тым, хто сёння можа будаваць», — заявіў ён.

**ЯМ**

# Сапсаваўшы выгляд Траецкага прадмесця, Чыж бярэцца за Ракаўскае?

«Трайпл» спадзяецца атрымаць **дазвол на знішчэнне** будынкаў хлебакамбіната, якія ахоўваюцца дзяржавай.

Тое, што хлебакамбінат № 1, які знаходзіцца пасярод Ракаўскага прадмесця ў Мінску, збіраюцца зносіць, даўно не з'яўляецца сакрэтам. Ён трапіў у план вынасу прадпрыемстваў з тэрыторыі сталіцы за кальцавую дарогу, але працы ніяк не пачынаюцца — банальна няма грошай. Тым не менш, паводле інфармацыі «НН», патрэбныя сродкі ўжо знойдзеныя.

Іх гатовы даць патэнцыйны інвестар — «Трайпл» на чале з блізкім да Лукашэнкі бізнэсоўцам Юрыем Чыжом...

> Ракаўскае прадмесце — апошняя кропка ў цэнтры горада, да якой не дабраліся рукі «рэстаўратараў» і рэканструктараў».



Гатэль на 250 месцаў з міні-пякарняй плануецца ўзвесці на тэрыторыі Ракаўскага прадмесця.

### Апошні пункт некранутага Мінска

Ракаўскае прадмесце — ледзь не апошняя кропка ў цэнтры горада, да якой не дабраліся рукі «рэстаўратараў» і «рэканструктараў», якія працуюць у стылі аграрэнесансу. Закрытае ад шуму вуліц ціханцкім жылым домам, у склад якога ўваходзіць гандлёвы дом «На Нямізе», прадмесце з яго ціхімі вулачкамі і старымі домікамі застаецца адным з любімых месцаў аматараў старога Мінска.

Гэты раён адносіцца да самых старажытных у сталіцы — першыя пасяленні з'явіліся тут яшчэ ў XI стагоддзі.

У наступныя стагоддзі на арандаваных землях пасяліліся дробныя гандляры. Тут ўзніклі дзясяткі вытворчасцяў: шпалерная, тытунёвая, абутковая фабрыкі. Хлебакамбінат узнік значна пазней. Прадпрыемства запрацавала ў 1927 годзе, але будынкі, у якіх яно знаходзіцца, гістарычныя, яны адносяцца да XIX стагоддзя.

Цяпер старыя дамы занялі офісы і рэстараны. За некалькі дзясяткаў метраў ад хлебазавода знаходзіцца вядомы «Ракаўскі бровар», які, дарэчы, належыць Юрыю Чыжу.

### Хлебакамбінат стаў лішнім

Згодна з генеральным планам Мінска, хлебазаводы № 1 і № 2 (на Крапоткіна, 33) «не адпавядаюць патрабаванням Генеральнага плана і падлягаюць трансфармацыі відаў выкарыстання». Іншымі словамі, на іх месцы можна зрабіць штонебудзь больш патрэбнае — чарговы гатэль ці офісны цэнтр.

Умовы, якія высоўваюцца для інвестараў, гучаць сурова. «Галоўны вытворчы корпус Хлебазавода № 1 з'яўляецца гісторыка-архітэктурным помнікам XIX ст. Галоўны вытворчы корпус Хлебазавода № 2 таксама з'яўляецца гісторыка-архітэктурнай каштоўнасцю, у ім размешчана вытворчасць, якая захоўвае традыцыі хлебапячэння ў Рэспубліцы Беларусь. Будынкі знаходзяцца пад аховай дзяржавы, не падлягаюць зносу», — такое апісанне атрымлівалі патэнцыйныя купцы, і іх імпэт згасаў.



Хлебзавод будзе псаваць хай-тэкавы рай у прадмесці.

### І яшчэ адзін гатэль

Тым часам УП «Мінскграда» (майстэрня «Мінскпраекта») прыдумала, што можна пабудаваць у Ракаўскім прадмесці.

Ідэя не была арыгінальнай — чарговы элітны гатэль. Чытаем апісанне. «Апартамент-гатэль «Ракаўскае прадмесце» ўключае:
- жылую частку агульнай плошчай 15 000 м² (колькасць жыльцоў 190–250 чалавек);
- блок сэрвіснага абслугоўвання агульнай плошчай 2000 м²:
- хол з рэцэпцыяй, кавярню, бар, СПА- і фітнэс-цэнтр, бізнэс-цэнтр з канферэнц-залай,
- прыёмныя пункты хімчысткі і пральні, аптэка, вузел сувязі;
- невялікі ўбудаваны дзіцячы садок;
- памяшканні «Белпрамбудбанка» 800 м².

У двух падземных узроўнях з атрыумам знаходзяцца адпачынковы цэнтр (інтэрнэт-кафэ), аўтастаянка на 300 машынамесцаў і спадарожны сэрвіс для кліентаў падземнай аўтастаянкі, а таксама рэстаран з міні-пякарняй агульнай плошчай 1000 м²».

У апісанні ўдакладняецца, што вытворчыя і складскія пабудовы, якія не ахоўваюцца дзяржавай, падлягаюць зносу, як і будынак «Белпрамбудбанка» і адміністрацыйны будынак «Мінскхлебпрама».

Такім чынам, дзяржаўныя архітэктары прапануюць усунуць пасярод нізкапавярховага — і гэтым мілага сэрцу — Ракаўскага прадмесця забаўляльны цэнтр, вышыня якога будзе вар'іравацца ад трох да сямі павярхаў! Варта ўзгадаць імёны стваральнікаў праекта. Гэта архітэктары Валянціна Прыгода, Анатоль Сярэдзіч, Уладзімір Ціток, Вольга Філатава, інжынер Людміла Шпілеўская і дызайнерка Алена Нікіценка.

### Злы геній мінскай гісторыі

Зразумела, што старыя будынкі пасярод квартала, якія ахоўваюцца дзяржавай патэнцыйнаму інвестару «Трайплу» стаяць як костка ў горле. Вядома ж, яны будуць псаваць хай-тэкавы рай у прадмесці.

Таму, паводле інфармацыі «Нашай Нівы», «Трайпл» настойвае, каб прадстаўнікі «Мінскхлебпрама» самі звярнуліся ў Міністэрства культуры і папрасілі дазвол на руйнаванне прадпрыемства.

Чыноўнікі пакуль што нібыта ўпіраюцца, але наколькі хопіць іх сілаў, калі ўлічыць, што на супрацьлеглым баку рынга знаходзіцца Юрый Чыж?

Мільянера можна лічыць злым геніем гістарычных кварталаў Мінска. Ягоны 23-павярховы жылы комплекс «Ля Траецкага» сапсаваў выгляд аднайменнага прадмесця. Цяпер, відаць, чарга дайшла і да Ракаўскага...

Старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч тлумачыць, што, хоць Ракаўскае прадмесце і не ўваходзіць у цэнтр горада, яно ахоўваецца заканадаўствам.

Ён спасылаецца на закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь». Ім прадугледжваецца, што «распрацоўка праектнай дакументацыі, рэалізацыя якой можа аказаць уздзеянне на гісторыка-культурныя каштоўнасці, без нанясення ўстаноўленых зон аховы нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей або без іх устанаўлення забараняецца».

Ніякіх ахоўных зон пакуль не створана, а грошы інвестара падбіраюцца да Ракаўскага прадмесця ўсё бліжэй.

Атрымаць афіцыйны каментар ад «Трайпла», на жаль, не выглядае магчымым. Ранейшыя спробы камунікавання з асобай, адказнай за сувязі з прэсай, зводзіліся да адпраўлення электронных лістоў. Ні на адзін з іх адказу так і не было.

**Ягор Марціновіч**

# Зламаныя дзверы важнейшыя за бяспеку метро

Старшыня Мінгарвыканкама пракаментаваў вылазку расійскіх блогераў **на рэжымныя аб'екты** Мінска.

«Не пакінуў без увагі Мікалай Ладуцька і вылазку расійскіх блогераў, якія размясцілі ў інтэрнэце прыгожыя фатаграфіі Мінска. Зрэшты, некаторыя са здымкаў былі зроблены не надта законна, сцвярджае сталічны кіраўнік горада. Нашы госці, прабраўшыся ў будынак насупраць КДБ, спачатку зламалі дзверы ў пад'ездзе, а пасля зрэзалі замок на гарышча», — піша газета «Рэспубліка».

Пры гэтым чыноўнік ці забыў, ці не палічыў патрэбным пракаментаваць той факт, што за пяць месяцаў пасля тэракта ў мінскім метро сюды ўжо двойчы траплялі старонніх людзі. Пры гэтым яны не сустрэлі ніякіх перашкод і здолелі зрабіць фота- і відэаздымкі.

Першы выпадак здарыўся ў ноч на 29 мая. Ён каштаваў начальніку Мінскага метрапалітэна Мікалаю Андрэеву пасады. Міліцыя тады пабаялася ўзмацніць меры бяспекі. Аднак у ноч на 7 верасня ў мінскім метро адзначыліся вышэйзгаданыя расійскія блогеры. Гэта здарылася за колькі дзён да Дня горада і за тыдзень да пачатку працэсу па справе выбуху ў метро 11 красавіка. Сваім учынкам яны засведчылі, што пытанне павышэння бяспекі мінскага метро застаецца адкрытым.

**Сямён Печанко**



# «Казалі, што ўсіх выпусцяць, а пра мяне забудуць»

Актывіст Руху «За Свабоду» **Мікіта Ліхавід**, асуджаны за падзеі 19 снежня, 15 верасня выйшаў на волю з наваполацкай калоніі.

**«НН»: Мікіта, калі даведаліся, што выпускаюць?**

**Мікіта Ліхавід:** У 18.50 у камеру прыйшлі людзі, якія сказалі, што я свабодны. Праз дзесяць хвілін я ўжо быў за межамі калоніі. Апошнім часам я знаходзіўся ў памяшканні камернага тыпу.

**«НН»: Вас часта змяшчалі ў штрафны ізалятар, карцар?**

**МЛ:** Так, агулам я правёў 81 суткі. За любую нязгоду мяне маглі пакараць.

**«НН»: А чаму не выконвалі патрабаванні адміністрацыі?**

**МЛ:** Яны накіраваныя на тое, каб выпраўляць злачынцу. Я не злачынца, я — чалавек невінаваты, таму мяне і выпраўляць не трэба.

**«НН»: Не баяліся, што могуць зламаць фізічна?**

**МЛ:** Гэта такія гучныя словы. Я пазнаёміўся з людзьмі, якія па 100 сутак і больш не выходзілі з ШІЗА. У мяне — дробязь.

**«НН»: Што дапамагала вытрымаць?**

**МЛ:** Вера ў сябе, што я невінаваты. Я ўжо настроіўся, што мне дадуць сем гадоў зняволення. Калі атрымаў у два разы менш, то падумаў, што гэта раз шчоўкнуць пальцамі.

**«НН»: Саннікава ў калоніі бачылі?**

**МЛ:** Бачыў у дзень яго этапу. Нават не пазнаў спачатку, вельмі стомлены быў. «Амерыканка» — гэта не цукар.

**«НН»: Прашэнне на імя Лукашэнкі падпісаць прапаноўвалі?**

**МЛ:** Ад пятніцы да нядзелі штодня. І мясцовыя, і кадэбісты. Казалі, што ўсе выйдуць, а пра цябе забудуць. Сказаў, што добра, родныя ўсё адно будуць памятаць. Нічога так і не падпісаў.

***

«Я паказаў, што сядзець можна не так, як яны хочуць. Сядзець можна годна. Я не памёр, як ім хацелася. Галоўнае, што я мацнейшы ўнутры». Мікіта Ліхавід лічыць, што яго не толькі незаконна асудзілі, але і незаконна выпусцілі.

За дзевяць месяцаў, праведзеных за кратамі, 21-гадовы вязень схуднеў на 17 кілаграмаў.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мікіта Ліхавід правёў 81 суткі ў штрафных ізалятарах.

# «Нават да суседзяў без дазволу нельга»

Паўгода пра **Дзмітрыя Мядзведзя**, асуджанага адным з першых па справе «масавых беспарадкаў», не было навінаў. Мужчына пагадзіўся адказаць на пытані «НН».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Калі ты за Саннікава галасаваў — сядзі далей тады».

**«НН»: Дзмітрый, чым займаліся ўвесь час пасля вынясення прысуду?**

**ДМ:** Працаваў, хаця, з аднаго боку, і не хацелася, каб не плаціць падаткі. А з другога боку — не даюць. З офіса, які здымаў на заводзе, папрасіў з'ехаць яго дырэктар. Пакуль суд, пакуль пераехаў, а там абрабавалі... Суды так надакучылі, што інструмент не хацелася браць у рукі. Ды і ніякай працы няма для будоўлі — усё зачынена. Збіраўся малочныя прадукты вясной вазіць у Расію, а тут негалосны загад выйшаў, каб толькі дзяржпрадпрыемствы гэтым займаліся. Безумоўна, шукаем, што можна рабіць.

**«НН»: Якім бізнэсам займаліся?**

**ДМ:** Будоўляй, рамонтам. Свая фірма. Раней вялікая была. Цяпер маленькая. Добры калектыў сабраўся. Будавалі горку ў «Альпійскім снезе» на Курасоўшчыне — гарналыжным цэнтры. Але ўсё кракам пайшло.

**«НН»: Пасля суда?**

**ДМ:** Так. Усё спынілася. Пакуль мяне не было, дык добра, што хоць падаткі ў студзені—лютым заплацілі. Калі выйшаў у сакавіку — разабраўся з пазыкамі на заводзе па арэндзе. Па нулях выйшлі — і з канцамі. І больш ніякай працы.

**«НН»: А ся ж у Вас сям'я, дзеці…**

**ДМ:** Меншаму сыну паўтара года. І старэйшыя сын з дачкой.

**«НН»: І кожнаму трэба дапамагчы?**

**ДМ:** Старэйшыя — дарослыя людзі. Але хаця б крыху і трэба памагаць. Сын вось да мая чакаўчакаў, што нешта наладзіцца (таксама ў мяне працаваў) і знайшоў новае месца. Нічога, выжывем. Добра, што маці дапамагае.

**«НН»: Вам вынеслі такое пакаранне, як «хатняя хімія». У чым Вас абмяжавалі?**

**ДМ:** Без дазволу выехаць за горад я ўвогуле не магу. Раз на месяц адпускаюць. І тое, раз адпусцяць, другі — не. Выхадныя я павінен дома праводзіць. Нават на лесвічную пляцоўку не магу выйсці, як у міліцыі сказалі. Да суседзяў — тым больш. Ні наведаць масавыя мерапрыемствы... Адзінае, што карыстацца інтэрнэтам не забаранілі. У будныя дні з 21.00 да 7.00 я павінен быць дома.

**«НН»: І правяраюць?**

**ДМ:** Пастаянна. Прыходзяць і ў гадзіну начы. І няважна, што дома дзіцёнак маленькі спіць. Бываюць у 22.00, 23.00 гадзіны заходзяць.

**«НН»: Як Ваша жонка паставілася да такога рэжыму?**

**ДМ:** Хто можа прывыкнуць да такой сітуацыі?! Трывае, падтрымлівае. Дзякаваць Богу, у нас з жонкай добрыя стасункі. Яна малайчына. І так столькі змагла вынесці.

**«НН»: Сочыце за падзеямі вакол справы па 19 снежні?**

**ДМ:** Так, ведаю, што пачалі выпускаць людзей з турмы...

**«НН»: Некаторыя з вызваленых падпісвалі прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Вам не прапаноўвалі падпісаць?**

**ДМ:** Не, і наўрад ці прапануюць. А калі і прапануюць, я не збіраюся падпісваць. У чым я быў вінаваты? І што яны даказалі на судзе?

**«НН»: На судзе Вы сваёй віны не прызналі і сказалі, што на Плошчы апынуліся выпадкова. Як гэта адбылося?**

**ДМ:** Я за сынам прыехаў. І нас разам адтуль забралі. Пасля дзесяці сутак арышту мяне адвезлі на Акрэсціна і сказалі, у чым абвінавачваюць. 30 снежня мяне ў Генпракуратуру прывезлі, дзе, як я смяюся, «тройка» НКУС вырашала ўсе пытанні. «Калі ты за Саннікава галасаваў — сядзі далей тады». І 31 снежня мяне ўжо прывезлі ў ізалятар на Валадарскага. У камеру я зайшоў а 22-й гадзіне. Мужыкі жартавалі, маўляў, Дзед Мароз прыйшоў.

**«НН»: Як адносіліся сукамернікі да Вас, як да палітычнага?**

**ДМ:** Па-рознаму. Галоўны там роў як бялуга: «Каб мне на год скінулі тэрмін, я б вас усіх там парубаў».

**«НН»: Як паставіліся Вашы сваякі і сябры да таго, што Вас асудзілі?**

**ДМ:** Неяк адносіны сталі яшчэ больш цёплымі. Некаторыя, праўда, папрасілі радзей тэлефанаваць. Але такіх адзінкі. А ў асноўным усе падтрымалі. Нават тыя, каго не лічыў блізкімі сябрамі, сталі адносіцца да мяне яшчэ лепш.

**Сяргей Макарэвіч**

**Дзмітрый Мядзведзь**

асуджаны на тры гады абмежавання волі без накіравання ў спецустановы. Яго прызналі вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках (частка 2 артыкула 293 КК) і супраціве міліцыі. Прысуд вынесены 10 сакавіка.

# 7 асуджаных за Плошчу застаюцца ў зняволенні

**Плюс шэсць анархістаў**, Мікалай Аўтуховіч і Алесь Бяляцкі.

За кратамі за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года застаюцца трое экс-кандыдатаў у прэзідэнты — Мікалай Статкевіч, Дзмітрый Ус, Андрэй Саннікаў, — давераная асоба Саннікава Зміцер Бандарэнка, адбывае «хімію» ў Пружанскім раёне давераная асоба Віталя Рымашэўскага Павел Севярынец.

Можна смела лічыць асуджанымі за Плошчу Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава, затрыманых 18 снежня і асуджаных нібыта за бойку (хуліганства).

Нагадаем, што да «хіміі», але без накіравання ў папраўчыя ўстановы, былі таксама асуджаныя Дзмітрый Мядзведзь і Андрэй Пазняк.

За кратамі знаходзяцца мінскія і бабруйскія анархісты Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Павел Сырамлотаў, Арцём Пракапенка, ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч і праваабаронца Алесь Бяляцкі.

**АГ**

## Сцісла

### Вязням пагражалі згвалтаваннем

Мікалай Статкевіч у размове з дачкой Кацярынай паведаміў, што вязням пагражалі згвалтаваннем, калі тыя не падпішуць прашэнне аб памілаванні. Гэтую інфармацыю пацвердзіў і Аляксандр Класкоўскі, які выйшаў на волю 14 верасня. Але ён падкрэсліў, што ніякага прашэння не падпісаў.

### «Вас будуць мяняць на крэдыты»

«У СІЗА КДБ мне адкрыта казалі, што мы — закладнікі, тавар. Што нас будуць мяняць на крэдыты», — сказаў 16 верасня на прэс-канферэнцыі Аляксандр Атрошчанкаў. А наконт магчымага дыялогу паміж уладамі і апазіцыяй былы палітвязень заявіў, што «з Лукашэнкам можна размаўляць толькі аб перадачы ўлады».

**КМ**

# «Лепш за «Барселону» ніхто не трымае мяч»

А **слабое месца** каманды — антрапаметрыя.

Пра сучасную «Барселону» мы распыталі адмыслоўца ў іспанскім першынстве, журналіста Юрыя Доўнара.

**«Наша Ніва»: Што на сёння ўяўляе сабой «Барселона»?**

**Юры Доўнар:** Калі казаць проста, то гэта наймацнейшы клуб свету, які можа гуляць з пазіцыі сілы з любой камандай. Лепш за «Барселону» ніхто не трымае мяч. Канечне, часта гэта адбываецца толькі дзеля трымання, але рана ці позна такая тактыка выматвае суперніка і ягоная абарона рвецца.

**«НН»: Як іспанскія каманды супрацьдзейнічаюць «Барсе»?**

**ЮД:** Ну вось «Рэал» (Сасьедад) зрабіў два навесы, пасля якіх было два галы. Насамрэч цяжка сказаць, як гуляць супраць «Барселоны». Гульня ад абароны, ці прэсінг не даюць асаблівага плёну. Клін клінам выбіваюць — трэба гуляць, як «Барселона», але рэальнасць такая, што больш так гуляць ніхто не ўмее. Той жа «Манчэстэр Юнайтэд» двойчы ў фіналах Лігі чэмпіёнаў так нічога і не змог ім супрацьставіць.

**«НН»: Каго трэба найбольш баяцца ў складзе каталонцаў?**

**ЮД:** Кагосьці вылучаць не выпадае. Нібыта Мэсі — найлепшы футбаліст свету, але ён часта прытрымлівае мяч, не дзеліцца з партнёрамі. Гуляць з ім персанальна не мае сэнсу, бо тады гэтыя недахопы могуць хутка знікнуць. Са з'яўленнем Фабрэгаса ў «Барселоне» з'явіўся цудоўны падносчык снарадаў.

**«НН»: Якія слабыя месцы «сінегранатавых»?**

**ЮД:** Антрапаметрыя. «Барса» не робіць стаўку на легіянераў. А іспанцы ўвогуле нізкія людзі. Пры гульні на «другім паверсе» ў іх з'яўляюцца праблемы. Праўда, клуб цудоўна ведае свой мінус, таму і не дае навешваць. Галавой у «Барселоне» добра гуляе толькі Піке і яшчэ некалькі футбалістаў.

**«НН»: Якую ролю ў камандзе адыгрывае іх трэнер Хасэп Гвардзіёла?**

**ЮД:** Існуе меркаванне, што невялікую. Пра ягоны патэнцыял можна будзе дакладна казаць толькі пасля пераходу ў іншы клуб. Гвардзіёла прытрымліваецца правіла: «Не нашкодзь». Гэта вельмі моцная якасць для трэнера, застацца дзесьці ў цені для камандных перамог. Тым не менш, каталонцы, фактычна, не маюць перадсезонкі, але трэнер ім можа дакадна паказаць, як гуляць у пачатку сезона.

**«НН»: Ці ёсць у БАТЭ шанец на станоўчы вынік?**

**ЮД:** Гуляць трэба. Цяпер у каталонцаў даволі напружаны каляндар. Іх чакае цяжкая гульня з «Валенсіяй», потым яшчэ адзін тур. Магчыма, у Мінск яны прыляцяць не вельмі свежыя, не такія матываваныя, як падчас гульні з «Асасунай» (8:0). Для БАТЭ важна вытрымаць першыя хвілін 20. Не даць «Барсе» перайсці ў рэжым перакатвання мяча. Трэба ўважліва ставіцца да стандартаў. Увогуле, у БАТЭ ёсць дастаткова крэатыўных гульцоў цэнтра поля, якія могуць вырашаць эпізоды. Хуткі гол барысаўцаў — таксама будзе нядобра, ён можа зламаць усю тактыку Ганчарэнкі на гульню. Калі паглядзець статыстыку, то іспанцы нашмат лепш гуляюць першыя таймы за другія, з іншага боку — ніхто не атрымлівае больш за іх валявых перамог.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**ФК «Барселона»**

Заснаваны ў 1889. Колеры — сінегранатавыя. Стадыён — «Камп ноў». 21-разовы чэмпіён Іспаніі. Па чатыры разы выйграваў Лігу чэмпіёнаў, Кубак УЕФА, Кубак кубкаў. Трэнер — Хасэп Гвардзіёла. Капітан — Карлес Пуёль.



## Хаві

Карэнны каталонец, адзін з сімвалаў «Барселоны». На ўручэнні Хаві ўзнагароды «Залатога мяча-2008» было сказана, што гэты футбаліст увасабляе іспанскі футбольны стыль. Яго вылучае выдатная працаздольнасць і акуратнасць, нават мянушка адпаведная — «Эль-Профі». За кар'еру ў Хаві было толькі дзве каманды — «Барселона» і зборная Іспаніі. Цікава, што ўсе родныя футбаліста заўзеюць за другі каталонскі клуб — «Эспаньёл». Дарэчы, Хаві неаднаразова прызнаваўся, што з радасцю адзене майку зборнай Каталоніі, як толькі такая з'явіцца.



## Давід Вілья

Нарадзіўся ў горнай вёсачцы на поўначы Іспаніі. У чатыры гады Давід зламаў правую нагу. Першыя трэніроўкі даваў ягоны бацька, шахцёр Жазэ Мануэль. «Калі ў мяне быў пералом, то мне кідалі мяч зноў і зноў, каб я ўдарыў яго левай нагой». Цяпер Вілья нават не можа сказаць, ці ён праўша, ці ляўша. Раскрыўся Вілья ў складзе «Валенсіі». За пяць сезонаў у складзе «кажаноў» ён забіў 107 галоў. А толькі летась за «Барселону» — 20. Найлепшы бамбардзір зборнай Іспаніі ўсіх часоў. Вілья таксама вядомы як папулярызатар астурыйскай мовы.

**Для БАТЭ важна вытрымаць першыя хвілін дваццаць. Не даць «Барсе» перайсці ў рэжым перакатвання мяча.»**



## Карлес Пуёль

Каларытны абаронца «Барселоны». Пуёль жорсткі і бескампрамісны. Пры гэтым, праз высокі прафесіяналізм ён амаль не атрымлівае траўмаў і папярэджанняў. Карлес таксама нарадзіўся ў вёсцы. Магчыма, гэта проста піяр, а, можа, і даніна сваім караням, але ў доме Пуёля жыве авечка. Праз гэта з яго часта жартуюць. Сустракаецца Пуёль з іспанскай супермадэллю Маленай Костай. Як і Вілья з Хаві, Пуэль пераможца апошніх чэмпіёнатаў свету і Еўропы. Менавіта гульцы «Барселоны» складаюць касцяк іспанскай зборнай.



## Ліянэль Мэсі

У дзяцінстве толькі бабуля Селія верыла, што з Ліянэля будзе толк. У 11 гадоў у Мэсі знайшлі дэфіцыт гармону росту, таму аргенцінскі гранд «Рывер Плэйт» так і не падпісаў кантракт з таленавітым футбалістам. Затое «Барселона» паверыла ў хлопца, аплаціўшы яму лячэнне. Ён пераехаў у Іспанію ў 13 гадоў, за гэты час стаў лідарам каманды. Дарэчы, высокага росту ў Мэсі так і няма, за гэта яго клічуць «Блыхой». Найлепшы футбаліст свету двух апошніх гадоў. Увогуле, у апошнія гады Мэсі збірае ўсе магчымыя ўзнагароды ў сусветным футболе.

# «Для дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь»

15 верасня пачаўся працэс **па справе тэрактаў**.

На выгляд — два «пацаны з раёна». Дзімон і Уладзік, 25-гадовыя карашы. На думку следства, менавіта яны ўчынілі дзясяткі злачынстваў, у тым ліку некалькі тэрактаў ад 2000 да 2011 гадоў. Выходзіць, гэтыя «ўнікальныя чалавекі» пачалі сваю чорную справу ў 14 гадоў.

Суд ідзе паводле звыклай працэдуры. У ёй няма месца для галоўных пытанняў: ці магчыма, каб два аболтусы доўгія гады ўчынялі гучныя злачынствы і пры гэтым заставаліся нябачнымі для ўсіх спецслужб у самай аўтарытарнай краіне Еўропы? І калі так, то чаму?

Гэтыя пытанні не даюць спакою і пацярпелым. Вось чаму першы дзень працэсу пачаўся з нязвыклага дэмаршу: прадстаўнік адной з пацярпелых папрасіў перанесці суд, пакуль у Беларусі не будзе адменена смяротнае пакаранне і пакуль не ўведзены суд прысяжных.

Разгубленасць на лавах публікі толькі ўзмацнілася, калі падазраваныя пачалі выступаць. Адзін з іх, Кавалёў, адмовіўся ад ранейшых паказанняў. Ён заявіў, што даваў іх пад ціскам і пад дыктоўку аператыўнікаў. Другі, Канавалаў, даваць паказанні зусім адмовіўся.

## Слесар і манцёр

Поўныя імёны — Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў. Месца нараджэння — Віцебск. Месца пражывання на 11 красавіка — Віцебск і Мінск. Кавалёў апошні час працаваў у Мінску электраманцёрам, Канавалаў — на заводзе трактарных запчастак.

Судовы працэс зрабілі адкрытым. Для гэтага нават пераабсталявалі актавую залу Дома правасуддзя. У справе фігуруюць больш за 500 пацярпелых. На першае пасяджэнне з'явіліся толькі 121 з іх. На наступныя — яшчэ менш. У аўторак у зале добра калі было 30 чалавек акрамя міліцыянтаў і рэпарцёраў. Працэс абяцае быць доўгім.

Здымаць пасяджэнні забаронена. Суддзя Аляксандр Федарцоў забараніў гэта на просьбу пацярпелага Цюцюнова, які лічыць, што абвінавачаныя «не вартыя таго, каб іх твары паказвалі на ТБ і ў прэсе». Па-свойму гэты чалавек справядліва сказаў.

Меркаваны выканаўца тэракта Дзмітрый Канавалаў імкнуўся супрацьпаставіць сябе грамадству, заявіў, зачытваючы абвінавачванне, намеснік генеральнага пракурора Аляксей Стук. Канавалавым, на думку пракуратуры, рухала «жаданне прадэманстраваць усёдазволенасць і неапраўданую агрэсію, атрымаць маральнае задавальненне ад працэсу беспакаранасці за свае злачынствы, крыва зразуметага пачуцця самарэалізацыі і сваёй перавагі над людзьмі і грамадствам у цэлым, з мэтай дэстабілізацыі грамадскага парадку і застрашвання насельніцтва».

На пачатку суда Канавалаў прызнаў віну па выбухах 11 красавіка 2011 года і 3 ліпеня 2008 года. А вось па нязначных, ранніх эпізодах, пачынаючы з 2000 года, ён віны не прызнае.

Кавалёў жа лічыць сябе вінаватым па выпадках хуліганства ад 2000 да 2002 года, але падкрэслівае, што гэтыя выпадкі не неслі пагрозы жыццю. Сваёй віны па эпізодах 2005–2011 гадоў ён не пацвярджае.

Судовы працэс вырашылі пачаць з даследавання доказаў справы па апошнім, самым страшным эпізодзе, які інкрымінуецца Канавалаву і Кавалёву — выбуху ў метро.

**Загадкавы несупаданс**

13 красавіка старшыня КДБ Зайцаў заявіў журналістам, што пры выбуху ў метро было выкарыстана асаблівае рэчыва, якому амаль няма аналагаў у свеце. У той жа час у пратаколах допытаў Канавалава названы два рэчывы, з якіх рабілася выбухоўка. Адно з іх — аміячная салетра, якую падазраваны набыў у краме «Сад і агарод».

**Недавер**

Прадстаўнік адной з пацярпелых Аляксандр Круты ў часе працэсу папрасіў перанесці суд, пакуль у Беларусі не будзе адменена смяротнае пакаранне і пакуль не ўведзены суд прысяжных. Аднак судовая калегія адхіліла яго хадайніцтва.



**Метадычны забойца?**

Паводле ацэнкі абвінавачвання, выбух у метро Канавалаў рыхтаваў з ліпеня 2010. Выбуховае рэчыва было выраблена на аснове аміячнай салетры. Выбухоўнік у самаробнай бомбе быў электрычнага тыпу, а сама прылада — асколачна-фугаснага дзеяння.

Дзмітрый Канавалаў у асноўным сядзіць апусціўшы вочы.



Улад Кавалёў даказвае, што нічога не ведаў пра выбухоўку.

## «Падчас допыту я пачуў крык Канавалава»

«Нас адвялі з Дзмітрыем на допыты, — паказваў у судзе Кавалёў. — Я быў на 2 паверсе ў кабінеце будынка ГУБАЗ. Падчас допыту мне сказалі, з якой мэтай затрымалі. Сказалі, што мой сябра ёсць на кадрах відэакамеры. Мне ў той дзень паказалі, як Канавалаў праходзіць з сумкай у метро. Пазнаў яго. З аднаго з суседніх кабінетаў я пачуў крык Канавалава. Аператыўны работнік сказаў, што гэта не ён крычыць. Але я яго пазнаў».

Кавалёў не выключае, што гэта магло быць зроблена наўмысна, каб запужаць яго тымі крыкамі. Пасля гэтага інцыдэнту яго перавялі на іншы паверх і працягнулі допыт. Сказалі, што «лепш табе, хлопец, прызнаць». Маўляў, толькі 2 гады за неданясенне атрымаеш. А за тэрарызм у лепшым выпадку 25 гадоў, а ў горшым «лоб зялёнкай намажуць». І калі будзеш адмаўляць, усё адно табе ніхто не паверыць. «Я ўпэўнены, што Дзмітрый не ўзрываў у 2011 годзе. Мала што мне паказалі. Проста гуляе... Прайшоў праз турнікет».

## Версія Кавалёва

З допыту абвінавачанага ў зале суда вынікае, што 9 красавіка яму паталефанаваў Канавалаў (гэта быў другі званок за год, першы — 1 студзеня). Сказаў, прыедзе ў Мінск. Папрасіў сустрэць.

Сустрэліся 10 красавіка на чыгуначным вакзале. Канавалаў быў з вялікай сумкай. Сябры разам неслі яе. Мэту прыезду назваў: «па справах». Паехалі на метро ў рээлтарскую фірму на вуліцы Караля. Канавалаў шукаў кватэру недалёка ад цэнтра, побач з метро. Знайшлі аднапакаёўку. Пры засяленні Дзмітрый перанёс сумку за шырму, што дзяліла пакой на два. Купілі гарэлкі. Выпілі. Канавалаў прапанаваў пазваніць знаёмай дзяўчыне Яне Пачыцкай (пазнаёміліся праз сацыяльныя сеткі і не бачыліся ні разу). Папрасіў яе прыехаць з сяброўкай.

Дзмітрый выходзіў, калі пілі гарэлку, але да прыезду дзяўчат. Кавалёў адгаворваў ехаць, маўляў, што ён будзе адзін рабіць на кватэры. Але Канавалаў сказаў, што хутка вернецца. Вярнуўся ён праз гадзіну-паўтары. Зноў выпілі. Пасля пайшлі сустрэць дзяўчат да метро. Пасля пілі ўчацвярых, размаўлялі. Праз нейкі час адна дзяўчына з'ехала. Засталася Яна Пачыцкая. Напіліся, ляглі спаць. Пачыцкая лягла з Канавалавым, Кавалёў за шырмай.

**У чым іх вінавацяць?**

Дзмітрыю Канавалаву прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні тэрарызму, які пацягнуў чалавечыя ахвяры ды іншыя цяжкія наступствы, у незаконных дзеяннях у дачыненні да выбуховых рэчываў і выбуховых прылад, злосным і асабліва злосным хуліганстве, наўмысным знішчэнні і пашкоджанні маёмасці агульнанебяспечным спосабам.

Уладзіславу Кавалёву прад'яўлена абвінавачанне ў саўдзеле ў тэрарызме, учыненні злоснага і асабліва злоснага хуліганства, наўмысным знішчэнні маёмасці агульнанебяспечным спосабам, у незаконных дзеяннях у дачыненні да выбуховых рэчываў, укрывальніцтве асобы, якая ўчыніла асабліва цяжкае злачынства, і неданясенні аб злачынствах.

## Пілі гарэлку ў дзень тэракта

11 красавіка. Раніцай Кавалёў паехаў на працу. Пасля абеду самавольна сышоў. Хацеў хутчэй вярнуцца да сябра (той запрашаў). У кватэру яго пусціла Яня. Праз некалькі хвілін з прадуктамі і півам вярнуўся Канавалаў. Размаўлялі, глядзелі тэлевізар, музыку слухалі. Выпівалі. Канавалаў — менш. Пасля ён зусім перастаў піць. Сказаў, што трэба будзе ад'ехаць па справах. Бліжэй да вечара Канавалаў пакідаў кватэру дзесьці на гадзіну. Вярнуўся ў вясёлым настроі. Жартаваў, усміхаўся. «Як прайшлі справы?» — «Нармальна». Больш Кавалёў і не пытаўся.

Зноў пачалі выпіваць. Глядзелі тэлевізар. Бачылі рэпартаж з метро. Дзмітрый у гэты час ужо спаў. Уладзіслаў з Яняй адрэагавалі на рэпартаж здзіўленнем. Канавалава не будзілі. Яго ад'езд не звязвалі з гэтымі падзеямі. У гэты вечар Пачыцкая спала з Кавалёвым, Канавалаў — асобна.

Працяг на старонцы 10.

# «Для дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь»

Працяг са старонкі 9.

12 красавіка Уладзіслаў Кавалёў не пайшоў на працу: начальніку па тэлефоне сказаў, што не можа даехаць праз зачыненае метро. Утраіх глядзелі ранішнія навіны пра выбух. Размаўлялі пра рэпартаж з метро. Кавалёў не помніць эмоцый Канавалава. Яня Пачыцкая расхвалявалася і расплакалася. Канавалаў супакойваў дзяўчыну. Пасля выключылі тэлевізар. Слухалі музыку, выпівалі да вечара.

Спаць клаліся дзесьці ў 21—22 гадзіны. Разбудзілі іх міліцыянты ў масках.

## Што Кавалёў казаў на следстве

На допытах у турме Кавалёў заяўляў нашмат больш. Ён казаў, што ведаў пра намер Канавалава ўзарваць метро. Маўляў, апошні яшчэ па вяртанні з войска расказваў сябру пра такі свой намер.

Ён паказваў, што ведаў, нібы ў торбе Дзмітрый прывёз у Мінск выбухоўку. Пра гэта яму сказаў сам Канавалаў яшчэ на вакзале. Калі Уладзіслаў ускінуў сумку сабе на плячо (хацеў дапамагчы), Дзмітрый папярэдзіў, каб так больш не рабіў. Патлумачыў, што ў ёй знаходзіцца. На вуліцы Кавалёў зазірнуў у сумку. Убачыў там дзве пластыкавыя 3-літровыя бутэлькі, запоўненыя жаўтаватым рэчывам, цвёдым як камень. З кожнай праз адтуліны тырчэлі драты. Бутэлькі былі накрыты паперай.

Мэтай свайго прыезду ў Мінск Канавалаў назваў арганізацыю выбуху ў метро. Нашто? Сказаў, што мае дачыненне да выбуху каля стэлы ў Мінску ў 2008 годзе. Тады адна выбухоўка не спрацавала, а на ёй захаваліся адбіткі пальцаў Канавалава. А пару дзён таму ў яго ўзялі адбіткі. І цяпер, маўляў, даведаюцца пра яго датычнасць да выбуху. Таму вырашыў хутчэй здзейсніць выбухі ў метро, пакуль яго не арыштавалі. Але ў турму Канавалаў не збіраўся. Нібыта пасля выбуху хацеў скончыць жыццё самагубствам. «Нітрат натрыю ці калію», — назваў Кавалёў капсулы, з дапамогай якіх, па яго словах, сябар збіраўся загубіць сябе.

10 красавіка, калі Канавалаў пакідаў кватэру, Дзмітрый паведамляў пра мэту ад’езду. Сказаў, што паедзе ў метро, каб агледзець месца для выбуху. Але па вяртанні не назваў выбраную станцыю.

11 красавіка Канавалаў паказваў Кавалёву нешта кшталту радыёперадатчыка, з дапамогай якога планаваў выбухоўку прывесці ў дзеянне. Белая таблетка, кшталту камп’ютарнай мышы, але меншая. З сіняй кнопкай. Гэты перадатчык ляжаў у Дзмітрыя ў кішэні. Згодна з пратаколамі папярэдніх допытаў, Уладзіслаў быў сведкам таго, як Канавалаў падлучаў драты з выбухоўкі да лямпачкі, якая адразу засвяцілася. Згасла ж, як мяркуе Кавалёў, пасля таго, як скончыла граць мелодыя ад дзвярнога званка (званок таксама выкарыстоўваўся ў выбухоўцы). Па словах Уладзіслава, самой музыкі чуваць не было, бо дынамік, напэўна, быў выдалены загадзя. Таксама Кавалёў расказаў пра чорны электронны будзільнік на выбухоўцы.

**Ані партрэтаў, ані мітынгаў**

Болей за 200 пацярпелых, сотні журналістаў і тэлеаператараў прысутнічалі ў судзе ў першы дзень працэсу. Аднак каля будынка ўсё было досыць спакойна. Ані абуранай нялюдскім тэрактам грамадскасці з заклікамі пакараць вінаватых як мага стражэй. Ані партрэтаў ахвяраў. Ці то беларусы не паддаюцца эмоцыям, ці папросту адвучаныя горкім вопытам публічна выказваць свае думкі? Ці, пакуль віна падсудных не даказаная, людзі не спяшаюцца верыць у віну Канавалава і Кавалёва? Стрыманасць панавала і ў зале суда.



Намеснік генпракурора Аляксей Стук.

## Першы допыт

У судзе было зачытана некалькі пратаколаў допыту Уладзіслава Кавалёва. І ў кожным з іх узнікалі ўсё новыя і новыя дэталі. Спачатку ён расказвае, што не бачыў, як Канавалаў злучаў толькі драты, а пасля ўспамінае, што драты падключаліся да лямпачкі і быў яшчэ будзільнік. У адным выпадку Кавалёў не ведаў, чым ізаляваліся правады ў выбухоўцы. У іншым ён паведамляў ужо пра чорную ізастужку...

Першы допыт Уладзіслава Кавалёва пад пратакол правялі ўначы 13 красавіка. Уначы, калі іх забралі, па сведчанні Аляксандра Лукашэнкі і самога Кавалёва, п’янымі. І яны адразу пачалі прызнавацца. На тым першым допыце Кавалёў сказаў, што не цікавіўся ў Канавалава 10 красавіка, чаму яго сумка такая цяжкая.

У судзе Кавалёў даказваў: з кожным новым допытам у яго паказаннях з’яўляліся новыя дэталі, бо ён чэрпаў іх са шматлікіх размоў са следчымі, у тым ліку з КДБ, якія праходзілі без дакументавання і ў адсутнасць адваката. З ягоных словаў, гэта быў свайго роду інструктаж. Яму расказалі пра бутэлькі ў сумцы Канавалава, пра жаўтаватае рэчыва ў іх. Яму паказалі малюнкі перадатчыка, пра які ён пасля сам расказваў на допытах. Нават колер перадатчыка падказалі. А пасля аператыўнікі «праэкзаменавалі», ці запомніў Кавалёў усю інфармацыю, якую яму расказалі.

Кавалёў яшчэ спадзяваўся, што пойдзе па «мякчэйшым» артыкуле. Абвінавачаны таксама заявіў, што ў яго была размова адзін на адзін са следчым Генпракуратуры Варонiным. Апошні сказаў, што калі Кавалёў на судзе наважыцца мяняць паказанні, то ён, Варонін, пагаворыць з пракурорам. Пры гэтым следчы не патлумачыў, пра што пагаворыць. Але гэтыя словы Кавалёў успрыняў «як пагрозу».

## Канавалаў маўчыць

Дзмітрый Канавалаў адмовіўся адказваць на пытанні ў судзе. У сувязі з гэтым суддзя Федарцоў



Старшынюе намеснік кіраўніка Вярхоўнага Суда Аляксандр Федарцоў.

вырашыў зачытаць пратаколы допытаў абвінавачанага на папярэднім следстве, а таксама праглядзець відэа з тых допытаў. Так, 13 красавіка Дзмітрый пацвердзіў, што гэта ён здзейсніў выбух у метро. Голас Канавалава на відэа допыту ціхі, невыразны. Пра 11 красавіка 2011 года расказваў як пад дыктоўку — з вялікімі паўзамі, як завучаны тэкст. Прыехаў з выбухоўкай у Мінск. Сеў у метро. Даехаў да станцыі «Кастрычніцкая». Паклаў сумку каля лаўкі. І здзейсніў выбух». — «Якім чынам?» — «Націснуў на кнопку». — «Чаму ўзнікла такое жаданне [здзейсніць выбух]?» — «Для дэстабілізацыі абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь».

Пацаны з раёна не выражаюцца так: «распівалі спіртныя напоі», «дэстабілізацыя абстаноўкі», «выбуховае прыстасаванне». У астатнім паказанні Канавалава наконт 10—11 красавіка пацвярджаюць тое, што ў судзе расказваў Кавалёў. Пілі, спалі. На першым допыце Канавалаў адзначыў, што Кавалёў не ведаў пра выбухоўку ў сумцы. Аднак у адным з наступных пратаколаў засведчана, што Дзмітрый паведаміў сябру пра выбухоўку яшчэ на вакзале, адразу пасля прыезду. А супярэчнасці ў паказаннях патлумачыць тым, што спачатку хацеў выгарадзіць Кавалёва ад крымінальнай справы. Але калі даведаўся, што той і сам сведчыць, што ведаў пра выбухоўку, пачаў гаварыць праўду. Пра паказанні Кавалёва даведаўся з выпісак яго допытаў і на вочнай стаўцы.

Схему для выбухоўкі Канавалаў нібыта знайшоў у інтэрнэце месяцы за два да трагедыі. На якім сайце, не памятае. Рэчыва для выбухоўкі зрабіў шляхам

**Канавалаў спрабаваў скончыць жыццё самагубствам?**

Дзмітрый Канавалаў спрабаваў скончыць жыццё самагубствам у лютым 2008. Пра гэта на судзе заявіў Уладзіслаў Кавалёў. Па словах апошняга, яму ўвечары патэлефанаваў Дзмітрый і сказаў, што парэзаў сабе вены. Кавалёў прыехаў да сябра, які знаходзіўся ў сваім падвале. Перавязаў рукі. На наступным дзень разам пайшлі ў бальніцу. Кавалёў не ведае, у чым была прычына такога ўчынку. Не выключае, што сябар быў у дэпрэсіі.

сплаўлення аміячнай салетры з утрапінам. Гэта тое ўнікальнае рэчыва, якому амаль няма аналагаў у свеце, пра якое заяўляў старшыня КДБ Зайцаў?

## Канавалаву суд нецікавы

Першыя дні суда Дзмітрый Канавалаў не паказваў ніякага інтарэсу да працэсу. Большасць часу сядзіць, апусціўшы вочы. Зрэдку падымае вочы на адваката ці на суддзю. У залу, здаецца, амаль не глядзіць. У першы дзень ён быў чамусьці без шкарпэтак.

Уладзіслаў Кавалёў паводзіць сябе зусім па-іншаму. Ён высока трымае галаву. Ён сочыць за тым, што адбываецца ў зале. Уважліва праглядае відэа аднаго з допытаў з ім. Падчас допытаў у судзе ўпэўнена адказваў на пытанні суддзі, пракурора, пацярпелых. Відавочна, што ён будзе рабіць усё, каб давесці сваю пазіцыю. Кавалёў прывозіць у суд з сабой жоўтую тэчку. У ёй, напэўна, паперы. Але не было заўважна, каб Уладзіслаў рабіў нейкія запісы падчас працэсу.

**Сяргей Макарэвіч**

## Здарэнні сцісла

**Дырэктара маладзечанскай рыбнай гаспадаркі збілі да смерці**

33-гадовага дырэктара рыбгаса «Грыцава» Дзмітрыя Бегуна знайшлі нежывым у ноч 17 верасня побач са службовым аўто на беразе вадаёма. На целе памерлага былі шматлікія пашкоджанні: пераломом асновы чэрапа і абедзвюх ног. Усе чатыры колы службовай машыны дырэктара рыбгаса былі прабітыя.

Злачынства пакуль не раскрытае. Крымінальная справа заведзеная па артыкуле 147 ч.3 Крымінальнага кодэкса — «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, якое прывяло па неасцярожнасці да смерці пацярпелага».

**П’яныя віляйчанкі падрапалі твар міліцыянеру**

35-гадовая віляйчанка пасварылася з сужыцелем. Яе 59-гадовая маці выклікала ўчастковага. Але таго не было на месцы, таму прыехаў дзяжурны міліцыянт. Жанчынам гэта не спадабалася, і, замест вырашэння канфлікту з сужыцелем, яны накінуліся на ўчастковага. Міліцыянта з падрапаным тварам выратавалі калегі з патрульна-паставой службы, якія і прывезлі яго на выклік.

Дэбашыркам пагражае крымінальная справа.

**На турэцкага інвестара-будаўніка завялі справу**

Пракуратурай Маскоўскага раёна Мінска заведзеная крымінальная справа ў дачыненні да грамадзяніна Турцыі, кіраўніка прадстаўніцтва кампаніі ТАА «Эрым». Ён удзельнічаў у будаўніцтве адміністрацыйнага будынка па вул. Варвашэні. Пракуратура выявіла, што з красавіка па кастрычнік 2010 Амер Алтэкін здзейсніў крадзеж больш чым 1,8 млрд рублёў, якія належаць ААТ «Белгархімпрам». На дадзены момант ён знаходзіцца па-за юрысдыкцыяй беларускіх праваахоўнікаў — год таму Алтэкін з’ехаў на радзіму.

**У ЗША за выходныя на авіяшоу разбіліся два самалёты**

У горадзе Рына, штат Невада (ЗША), разбіўся самалёт P-51 Mustang часоў Другой сусветнай вайны. Абломкі самалёта накрылі бліжэйшыя трыбуны з гледачамі. У выніку катастрофы загінулі 9 чалавек, каля 50 атрымалі раненні. Самалётам кіраваў 74-гадовы пілот, ён таксама загінуў. А ў штаце Заходняя Вірджынія ў часе авіяшоу разбіўся аднаматорны самалёт. Загінуў пілот.

**СП**

# Не быць скотам

Новая **песня «Ляпіса Трубяцкога»** на словы рэвалюцыйныя Янкі Купалы.

10 верасня гурт «Ляпіс Трубяцкой» пры поўным аншлагу выступіў у піцерскім клубе «Касманаўт» з праграмай «Грай». На канцэрт прыехала шмат беларусаў — з Беларусі, дзе гурт знаходзіцца ў «чорным спісе», у Санкт-Пецярбург ладзіліся арганізаваныя выезды.

Адна з вызначальных рысаў новай праграмы «Ляпісаў» з загалоўнай беларускай песняй — магутны пратэстны запал. Перад сцэнай і ў руках музыкаў луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Пры канцы выступу Міхалок шмат разоў выгукнуў «Жыве Беларусь!»

Гваздом канцэрта стала прэм’ера песні «Не быць скотам» на словы Янкі Купалы. «Гэта маё крэда: не быць скотам», — сказаў лідар групы «Ляпіс Трубяцкой» у вялікім інтэрв’ю пасля канцэрта.

Верш «Хто ты гэткі?», які спявалі «Ляпісы», Купала напісаў у 1908-м, пераломным годзе яго біяграфіі. У той год паэт, пакінуўшы бровар у Яхімоўшчыне, пераязджае ў Вільню і пачынае працаваць у газеце «Наша Ніва».

«Хто ты гэткі» — наследаванне класічнаму вершу польскага паэтанеарамантыка Уладыслава Бэлзы «Катэхізіс польскага дзіцяці»:

Kto ty jesteś?
Polak mały,
Jaki znak twój?
Orzeł biały...

У адрозненне ад польскага, напісанага ў спакойным 1900-м, беларускі верш — для дарослых. І на першым месцы ў ім не нацыянальнае самавызначэнне, а патрабаванне сацыяльных правоў, «зямлі і волі». Не забываймася: твор пісаўся па свежых слядах рэвалюцыі 1905 года. Нават слова «беларус» не вымаўляецца. Замест яго згладжанае «тутэйшы» — вызначэнне, якое пасля стане адмоўна-парадыйным. Але ў 1908-м Купала, відаць, паставіў на першае месца прагу не нацыянальных, а базавых чалавечых правоў беларусаў. Сведчаннем нацыянальнай пазіцыі ў пачатку XX стагоддзя была сама мова верша. Зрэшты, як і сёння.

Песня «Ляпісаў» — маршавая, наступальная. З жорсткім рытмам і гімнавай духавой секцыяй. Трохі нагадвае панкаўскі «Маніфест» Міхалка, толькі спяваецца, як відаць на канцэртных запісах, усур’ёз.

Песня добра надаецца для гульні з залай — калі спявак гукае ў мікрафон пытанне, а тысячы слухачоў равуць адказ. То неўзабаве армія фанатаў «Ляпіса» вывучыць яшчэ адзін класічны верш Купалы.

**Сяргей Мікулевіч**



Янка Купала

**Хто ты гэткі?**

Хто ты гэткі?
— Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай.
Якой долі?
— Хлеба, солі.
А што болей?
— Зямлі, волі.
Дзе радзіўся?
— У сваёй вёсцы.
Дзе хрысціўся?
— Пры дарожцы.
Чым асвенчан?
— Кроўю, потам.
Чым быць хочаш?
— Не быць скотам.

*1908*

## Вольскі: **Цяперашні фармат «Ляпісаў» сугучны творчасці Купалы пачатку XX стагоддзя**

Калегі па цэху па-рознаму ацэньваюць новы твор «Ляпісаў».

**Лявон Вольскі:** «Народ сам выбірае свае гімны, і калі гэтую песню так называюць, значыцца, у гэтым ёсць сэнс. Я аб’ектыўна не магу ацэньваць творчасць Міхалка — мы з ім прыяцелі, аднак мне падабаецца большасць таго, што ён робіць. Цяперашні фармат «Ляпісаў» з заклікамі і маніфестамі вельмі сугучны творчасці Купалы пачатку XX стагоддзя, увогуле творчасць паэтаў тых часоў вельмі блізкая да нашай рэчаіснасці.»

Музыка **Аляксандр Памідораў** не бачыць у песні нічога асаблівага: «Чаму вам так карціць займацца стварэннем гімнаў? Ну, песня на верш Купалы. У «Песняроў» былі песні на вершы Купалы, у гурта Road Dogs ёсць песня на верш Купалы. Ну і што? Калі вы хочаце з «Ляпісаў» гімны рабіць, дык узгадайце, як яны спявалі «Лукашэнка» на мелодыю «Бураціна». А тут песня і песня».

**ЮУ**

# Караткевіч і Міхалок на ТОПе

Што **чыталі і слухалі** беларусы ў першай палове 2011 года.

З пачаткам новага працоўнага сезона ёсць нагода падвесці вынікі: чые кнігі і дыскі найлепш куплялі, чые ацанілі эксперты і хто з’яўляецца самым папулярным творцам на думку інтэрнэт-карыстальнікаў.

### Караткевіч і «Прэс-фота»

«Дзікае паляванне караля Стаха» на чатырох мовах па «дакрызіснай» цане 72 800 рублёў, па словах кансультанта «Кнігарні пісьменніка», прадаўся ў сямі экзэмплярах, што для класічнай кнігі — рэдкасць. Людзі разбіраюць кнігу Міколы Ермаловіча з серыі «Беларускі кнігазбор». З гістарычных кніг найбольш папулярнай застаецца расійскамоўная «Таямніцы беларускай гісторыі» Вадзіма Дзеружынскага.

У прыватнай кнігарні «ЛогвінаЎ» самай папулярнай кнігай ужо два гады застаецца «Наша страва» Алеся Белага. Добра прадаецца і фотаальбом «Прэс-фота Беларусі-2011» (разабралі сто асобнікаў, а выданне не таннае), дзіцячая літаратура — Туве Янсан пабеларуску хапаюць як гарачыя піражкі.

### «Ляпісы» і Кірчук

Абсалютным лідарам музычнага паўгоддзя з’яўляецца «Ляпіс Трубяцкой». Альбом «Вясёлыя карцінкі» і песня «Грай» трапілі ва ўсе магчымыя ТОПы і рэйтынгі.

У сетцы крамаў «Містэрыя гуку» гэта самы прадаваны беларускі дыск. У іх ТОП-5 уваходзіць і альбом «Маніфест». Сайт музычнай аналітыкі experty.by лічыць «Вясёлыя карцінкі» другім па якасці альбомам паўгоддзя, пасля «Зімачкі» этна-трыа «Тройца». «Грай» уваходзіць у спіс найлепшых песняў сезона ад інтэрнэт-рэйтынгу «Тузін Гітоў».

У астатнім рэйтынгі альбомаў адрозніваюцца. У «Містэрыі гуку» найпапулярнейшымі застаюцца выдадзеныя ў мінулыя гады «Песняры», «Белая яблыня грому» Вольскага і «Электрычнасць» J:Морс. Альбом «Тройцы» добра разыходзіцца ў незалежных распаўсюднікаў, а таксама на кропках кампаніі Vigma, якая цяпер выпускае 80% дыскаў беларускіх выканаўцаў.

**Юрась Ускоў**

## Сцісла

### Рыбак заспяваў па-беларуску

Спявак з Нарвегіі беларускага паходжання, які набыў сусветную вядомасць пасля перамогі на конкурсе «Еўрабачанне-2009», запісаў для праекта «Будзьма! Тузін. Перазагрузка-2» беларускую версію свайго хіта Europe's Skies. У беларускай інтэрпрэтацыі Глеба Лабадзенкі песня атрымала назву «Небасхіл Еўропы». Аляксандр Рыбак шкадуе, што не вывучыў дасканала родную мову і выказаў спадзеў, што яго спевам натхніцца новае пакаленне беларускіх дзяцей.

### Вольскі выдаў «Міларусь»

Выйшаў першы празаічны зборнік Лявона Вольскага «Міларусь». У кнізе сабраныя творы Вольскага ад 1980-х і да нашага часу. Але ў асноўным тут апяваюцца рознакаляровыя 90-я. Таму не здзіўляйцеся бруду на вуліцах, бандзюкаватым наведнікам рэстарацыяў і разборкам. У зборнік увайшлі 13 апаведаў і аповесць «Пакуль сабачка жывы».

### У Мінску пройдуць Дні культуры Кітая

Ад 25 верасня да 2 кастрычніка ў Беларусі адбудуцца Дні культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гвозд праграмы — нацыянальныя песні і танцы Унутранай Манголіі (26 верасня ў 19.00 на сцэне МДЛУ).

### «Малако» скісла: культавы бар зачыняецца

Прычына — змяніліся ўмовы арэнды. Ёсць інфа, што на месцы «Малака» будзе новая кавярня. Бар быў месцам збору багемнай моладзі, мастакоў, блогераў. Ён месціўся ў адным будынку з галерэяй «Ў» (Незалежнасці, 34а). Гаспадары кажуць, што збіраюцца адчыніць падобны бар у іншым месцы. І пад іншай назвай.

**СМ, СБ**

## Моды

# Гламурная беларуская «алкашка»




З’яўленне модных торбаў суправаджаецца **правакацыйнай рэкламнай кампаніяй**.

У пятніцу, 23 верасня, у 19.00 на выставе-распродажы «Уваход праз дызайн» (Незалежнасці, 27а) адбудзецца прэзентацыя новай калекцыі дызайнерскіх сумак.

Як паведамляюць арганізатары, «Ультарагламурныя мегабагемныя калдырскія торбачкі «Алкашкі» атрыманыя хітрым шляхам акуратнага і карпатлівага сшывання двух экзэмпляраў аўтэнтычных 100% баваўняных маек-«алкашак».

Сумка двухбаковая: на цёмным баку кожнай сумкі маецца серыйны прынт. Каляровая частка прадстаўлена ў трох варыянтах: «матроская цішыня», «мілітарка» і «суперстар».

«На стварэнне такіх сумак нахтніла само асяроддзе. Попыт на іх ўжо ёсць. Купляць такія рэчы тыя 5—10 тысяч беларусаў, якія не ездзяць закупляцца на «Жданы» ці ў Вільню, а шукаюць беларускія ўнікальныя тавары», — распавёў «НН» Артур Вакараў, адзін з дызайнераў. Кошт сумкі — 199 тысяч рублёў. Той, для каго ён завысокі, можа сам паспрабаваць зусім бясплатна сшыць дзве майкі.

Запуск модных торбаў у вытворчасць суправаджаецца правакацыйнай рэкламнай кампаніяй: даўганогія красуні на постарах сфатаграфаваныя з бутэлькамі таннага вермуту ў кампаніі яго традыцыйных спажыўцоў.

**Аксана Рудовіч**

# Яна ж у мяне прынцэса

З выхавання ў раскошы **выходзіць бяда.**

Нядаўна сустрэла сваіх знаёмых. Дзве жанчыны, супрацоўніцы з маёй папярэдняй працы. Разгаварыліся пра жыццё-быццё, пра дзяцей. Адна са знаёмых паведаміла, што дачка купіла новую машыну, бо старая яе не задавальняла. Я пацікавілася:

— Напэўна, дачка добра зарабляе?

— Ды дзе там! Звычайны аклад. Сядзіць у офісе, якія там грошы? — абвергла мае меркаванні знаёмая. — Мы з бацькам накапілі добрую суму. Я падпрацоўку ўзяла. Крэдыт афармілі ў банку. Вось выламалі з калена. Аддалі ўсё дачцэ.

— Нашто было так вылузвацца? — выказала я здзіўленне.

— А як жа па-іншаму? Яна ж у мяне прынцэса. Усё — для яе.

«Прынцэсе» 30 гадоў. Жыве ўжо з трэцім мужам. Мае дачку, якую найчасцей падкідае сваёй маці. Кожны год едзе адпачываць да мора. Дарэчы, маці яе ля мора не была ні разу.

Другая жанчына расказала пра свайго сына-студэнта, сказала, што ў яго няма машыны і ён падпрацоўвае, каб мець грошы на асабістыя расходы. Пакупніца новай машыны для любімай дачкі скептычна заўважыла, што ў хлопца можа развіцца комплекс непаўнавартасці.



СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Конкурсы прыгажосці сталі адной з неад'емных частак спажывецкага грамадства.**

**Вырасціўшы «прынцэсу», бацькам прыходзіцца самім аплачваць яе царскае жыццё.**

Выходзіць, што адэкватная ацэнка сваіх магчымасцяў, узважаны падыход да жыцця — гэта комплекс непаўнавартасці. А «панты» — гэта нармальна, гэта правільна і добра. Прыехалі!

Некалі я чытала ў аднаго псіхолага жартаўлівае выказванне: норма ёсць паталогія, якая авалодала масамі. Падобна, што гэта цяпер і адбываецца. Але, сапраўды, ужо не да смеху.

У краіне ідзе масавая вытворчасць «прынцэс». Бацькі высільваюцца, каб у іх дачкі было ўсё самае лепшае і каб яна, не дай Бог, не перапрацавала.

Была сведкам яшчэ адной размовы жанчын у цырульні. Кліентка жалілася цырульніцы на жыццё. Расказвае. Паехалі яны з сынам сватаць будучую нявестку. Прыехалі, а свацця і кажа: памагайце мне, маўляў, госці дарагія, накрываць на стол.

— А Юля, дачка Ваша, чаму яна не дапамагае? — пацікавіліся.

— Што Вы, — адказала свацця. — Я Юлечку сваю берагу. Яна ў мяне ў інстытуце на лекцыях вельмі стамляецца. Там такія нагрузкі!

— Як мой сын будзе з гэтай Юлечкай жыць? Я не ўяўляю, — ледзь не галасіла жанчына.

Самае дзіўнае ў гэтых гісторыях, што бацькі, вырасціўшы «прынцэс», чакаюць, як бы дачку са сваёй шыі перасадзіць на магутную шыю зяця. Але ж сумленныя хлопцы ў 25 гадоў не маюць магутнай шыі і дарагога мерсэдэса. Вось і прыходзіцца «прынцэсам» ці то старыцца ў дзеўках, ці к трыццаці гадам змяніць трэцяга мужа ў пошуках прынца. А можна яшчэ завесці коціка — таксама варыянт. Цяпер гэта модна.

А сутнасць застаецца нязменнай. Вырасціўшы «прынцэсу», бацькам прыходзіцца самім аплачваць яе царскае жыццё.

«Калі хочаш, каб я была анёлам, ствары для мяне рай», — любяць выказвацца некаторыя маладыя дзяўчаты. Рай для гэтых «анёлаў» прыйдзецца ствараць іх бацькам, пакуль яшчэ ногі ходзяць і вочы бачаць.

**Зоя С., Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Каменда**

Піша **Павал Севярынец**.

*...прапаведаваць палонным вызваленне, сляпым празрэнне, адпусціць спакутаваных на свабоду.*
***Лукі 4:18***

Спецкамендатура №7, або, прасцей, каменда — былая савецкая казарма ў колішнім вайсковым гарадку. Саўком, пахаваным дваццаць гадоў таму зусім непадалёк, у Віскулях Пружанскага раёна, тут тхне дагэтуль. Ужо на ўваходзе лёгкія да самых глыбіняў напаўняюцца камунальным духам агульнага карыстання, уласцівым рабочым інтэрнатам ды маласямейкам. «Ленінскі пакой» з партрэтам Лукашэнкі, чырвона-зялёным сцягам і гімнам пра гэты самы «радасцісцяг» нудзіць пылам старых тамоў эпохі застою, ад Чарнышэўскага да Чаргінца. У кухні па-над умывальнікам, калі возьмешся спаласнуць твар жаўцявай вадзіцай, б'е ў нос прысмак ржавага металу і крыві. Балотнае жалеззе. «Хімія» з такім знаёмым савецкім пахам арганічна спалучаная з КДБ, вуліцай Карла Маркса, «лініяй Сталіна» ды іншай савецкай спадчынай.

Каменда — двухпавярховы казённы дом з закратаванымі вокнамі; перад уваходам — дзве альтанкі (камеры назірання выведзеныя ў дзяжурку). Тры дзясяткі пакояў: кабінеты міліцыянтаў, кухні ды інтэрнацкія пакойчыкі змяшчальнасцю ад двух да сямі чалавек. Наш — на трох: ложкі, тумбачкі, стол. Сярод сотні асуджаных у асноўным маладыя хлопцы — берасцейскія, баранавіцкія, пружанскія. Хтосьці за бойку, хтосьці за «хуліганку», хтосьці за нявыплату аліментаў. Людзі і размовы такія самыя, якія пачуеш у любым двары: маё пакаленне, пра якое спяваў Вольскі (дарэчы, N.R.M. тут можна пачуць з мабільніка часцей, чым чакаеш). Міліцыянты, у адрозненне ад жылістых «хімікаў», мужчыны важныя і сабе наўме. Хтосьці пераконвае сябе, што змагаецца са злом; хтосьці стомлена гумарыць (пясчаны кар'ер — два чалавекі!.. Калі нехта вырашыў выпіць — пакой нумар такі, увага! — і не запрасіў вас — чакаем у дзяжурцы»); хтосьці механічна афармляе «нарухі» (парушэнні) з прычыны п'янкі або ўцёкаў дахаты і рыхтуе чарговаму «хіміку» дакументы на зону.

Дзяжурка з карцарам-клеткай. І званкі. Адзін — выклік днявальнага першага паверха. Два — другога паверха. Доўгі — на пераклічку.

6:00. Доўгі званок: пад'ём. 6:10 — пераклічка: уваткнуць сваё «тут» сярод бясконцых «здесь» у адказ на прозвішча і ісці кіпяціць ваду. Малітва. Біблія. Сняданак. Дзынькнуць ключыкам на шчыце ў дзяжурцы, абмяняць пропуск на табель і праз рэзкі, да спіннога мозгу пранізлівы віск жалезных кратаў у дзвярах — на працу.

Каменда, як і любая няволя, сцінае і калечыць час, выхоўвае ўмоўныя рэфлексы, прымушае слых вылоўліваць староннія шоргаты і шэпты, супастаўляць міліцэйскія позіркі з размовамі суседзяў. Каменда прымушае жыць у Беларусі Абмежаванай Волі.

Абмежаванне волі скразіць тут у кожнай драбніцы. Выхад з каменды на агароджаную тэрыторыю — з дазволу дзяжурнага. Выхад у горад — праз заяву на імя начальніка (падпіша — не падпіша?).

**Жыву — грашу. Памру — адкажу.**

Тыя, хто застаюцца ў камендзе і не ідуць на працу, у першай палове дня мусяць зачыняць свае пакоі: абавязковы прагляд тэлевізара ў актавай зале. Кухні адчыняюцца і зачыняюцца паводле нейкага дзіўнага распарадку, адзінае разумнае тлумачэнне якому — прывучыць асуджаных, што без ласкі адміністрацыі нават супчыку сабе не згатуеш. Здаецца, што і перыядычныя адключэнні электрычнасці на нашым другім паверсе (афіцыйная версія — дзеля эканоміі) пераследуюць тую ж мэту. Прыбіральня адна (і можна здагадацца, ува што ператвараюцца чатыры «ачкі» без пісуараў, пад напорам ста мужыкоў). Памыцца ў камендзе няма дзе: пішаш заяву, каб наведваць лазню ў Пружанах.

Зрэшты, за ўсё дзякуеш Богу: Дашкевіч, Саннікаў, Статкевіч, Бандарэнка не маюць і гэтага.

Каменда — прыпынак між турмой і воляй. За гэты год было ўмоўна-датэрмінова вызвалена 13 асуджаных і адпраўлена ў зону 16. Лік на карысць няволі. Людзі, вырваныя са свайго асяроддзя. Адбываюць. Цярпяць. Зрываюцца. Цішком п'юць.



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Каменда не толькі на мяжы волі, але і на мяжы веры. Першае, што мне кінулася ў вочы ў пакоі — драўлянае распяцце, кардонны абразок Збаўцы, абраз Маці Божай на покуці, сёлетні царкоўны каляндар і ўзятае ў рамку выданне Жыровіцкай абіцелі «Якім будзе чалавек без любові». Тут, на паўдарозе паміж усемагчымымі спакусамі ды кратамі, хлопцы то прыпыняюцца перад Богам, бо спадзяюцца «праскочыць». Мой сусед Лёха, якога пару тыдняў таму за дзевяць «нарухаў», апрануўшы кайданкі, адправілі ў баранавіцкі ізалятар, казаў: «Жыву — грашу. Памру — адкажу».

І ўсё-такі ты ведаеш: гэтая загрузлая ў лясах савецкая выспа, і родныя беларускія хлопцы-«хімікі», і напружаныя дзядзькі-міліцыянты — дзеля таго, каб палюбіць Бога — усім сэрцам, усім розумам, усёй душою, усімі сіламі тваімі і бліжняга, як самога сябе. Палюбіць Беларусь. Глядзі, пазнавай: у стоеных, схаваных вобразах і падабенствах, сярод абразоў і кратаў, не заўважаны, апляваны, укрыжаваны, у асуджаных і наглядчыках, у сынах чалавечых, сынах беларускіх — прысутны Бог.

*Куплін*

# Гісторыя Беларусі. Частка XXI

# Рабства ў даўняй Беларусі

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 32, 34, 39, 41 за 2010 год. № 6, 8, 11, 18, 20, 24, 29.**

У апагеі змагання Яраслава Наўгародскага са Святаполкам Тураўскім за кіеўскі стол адбылася важная падзея: на Русі, якая ўсё яшчэ заставалася адным з узораў «варварскіх дзяржаў» Еўропы, з'явіліся пісаныя законы. Паводле Наўгародскага летапісу, пасля пераможнай бітвы за Кіеў у 1016 г. Яраслаў раздаваў узнагароды свайму наўгародска-варажскаму войску — усе наўгародцы атрымалі па дзесяць грывень, смерды ж — па адной. Тады ж, адпускаючы іх дадому, Яраслаў «даў ім Праўду і Устаў напісаў, так кажучы ім: па гэтай грамаце хадзіце [жывіце], як напісаў вам». Гэта і была аснова прававога кодэкса, які ўвойдзе ў гісторыю пад назвай «Руская Праўда».

«Праўда» тут ужываецца ў сэнсе «права». Вядома, правілы, якія даў наўгародцам Яраслаў, былі толькі ядром гэтага прававога помніка. Нормы «Рускай Праўды» будуць дапаўняцца кіеўскімі князямі на аснове вуснага звычаёвага права, з уключэннем скандынаўскага і візантыйскага.

У гістарыяграфіі Першага Статута ВКЛ 1529 г. існуе цэлы напрамак, які аналізуе ступень уплыву на кадыфікацыю права ў Вялікім Княстве поруч з рымскім правам, традыцый «Рускай Праўды».

Штуршком да выдання яраслававай «Праўды» сталі яго абавязкі перад наўгародцамі. Напярэдадні выправы на Кіеў у Ноўгарадзе адбыўся ўзброены канфлікт паміж варажскай дружынай князя і гараджанамі. Яраслаў прыняў бок дружыны, хітрасцю завабіў ды пасек на кавалкі тысячу (магчыма, перабольшванне летапісца) слаўных наўгародцаў. Але ў канцы той трагічнай ночы ў Ноўгарад прыскакаў ганец з Кіева, які і паведаміў пра смерць старога князя Уладзіміра ды пачатак барацьбы паміж братамі за трон. Яраслаў памірыўся з гараджанамі, а пасля перамогі па магчымасці аддзячыў падданым і хаўруснікам.

Выданне «Рускай Праўды» было таксама абумоўленае досведам, набытым у грамадстве, дзе любой зачэпкі было дастаткова, каб узняць меч. Якім жа паўстае перад намі супольнасць Русі пачатку XI ст.?

Гэта было грамадства, дзе не проста дзейнічала, а была ўзаконеная кроўная помста. Навацыя «Рускай Праўды» была тут у тым, што, апроч штрафу за забойства, на карысць князя (віры) прапанавалася плаціць грашовую кампенсацыю сваякам забітага — 40 грывень (замест таго, каб забіваць адзін аднаго).



**Сяргей Іваноў. Торг у краіне усходніх славянаў.**

**Рабства на Русі нарадзілася дзякуючы лішку прадуктаў харчавання — палонных перасталі забіваць.**

Само ж разуменне акта знявагі было напоўненае патрыярхальным зместам. Калі хто быў збіты да крыві, але не мог адпомсціць за сябе, то мог прэтэндаваць на кампенсацыю ў 3 грыўні плюс плату лекару. Але ж калі будуць вырваны вусы ці барада, ці ўдар будзе нанесены палкай, далонню, кубкам, рогам, мячом у похвах, крыўдзіцель мусіў заплаціць аж 12 грывень — такія ўдары лічыліся зняважлівымі.

«Руская Праўда» фіксуе і сістэму фармальных доказаў, якая склалася на той час. У якасці такіх прызнаваліся прысяга, уласнае прызнанне, паказанні сведкаў, а таксама ардаліі — жорсткія фізічныя выпрабаванні са спадзяваннем на ўмяшальніцтва вышэйшых сілаў. Выпрабаванне гарачым жалезам выкарыстоўвалася, калі бракавала іншых доказаў. Сляды, якія пакідаў метал на целе чалавека, дазвалялі суддзям інтэрпрэтаваць ступень вінаватасці. «Руская Праўда» не раскрывае дэталяў такой праверкі. Але адбывалася яна, відаць, па аналогіі з архаічным выпрабаваннем вадой, калі звязанага чалавека кідалі ў ваду, і калі той тануў, лічылася, што ён выйграваў справу.

### Рабства на Русі: дыскусіі гісторыкаў

Значная частка праваых нормаў «Рускай Праўды» прысвечаная рабам, якіх называюць халопамі ці чэляддзю. З гэтага відаць, што яны былі даволі значнай часткай насельніцтва Русі. Рабы выступалі суб'ектамі права, а адказнасць за іх учынкі неслі гаспадары.

Яшчэ ў XIX ст. у гістарыяграфіі панавала думка, што ў славян Усходняй Еўропы рабства не было пашыранае. Расійскі гісторык Сяргей Салаўёў меркаваў, што славяне жылі «самымі простымі формамі быту, быту родавага». А ў народа, які жыве падобным чынам, «раб не моцна адрозніваецца ад членаў сям'і». Рабства таксама абвяшчалі вонкавай (варажскай) з'явай, прыўнесенай у славянскую супольнасць.

Апошняе меркаванне нібы пацвярджалі сведчанні арабскага вандроўніка першай паловы X ст. Ібн Фадлана, які апісваў гандаль рабамі ў волжскім горадзе Булгар. Ібн Фадлан прыгадваў русаў, што «нападаюць на славянаў, падплываючы да іх на караблях, высаджваюцца, забіраюць іх у палон, вязуць у Хазарыю ці Булгар і там прадаюць. Няма ў іх палеткаў, а харчуюцца яны тым, што прывозяць з зямлі славянаў».

Але і ў XIX ст. асобныя даследчыкі здолелі ацаніць ступень пашырэння рабства ва Усходняй Еўропе і ўбачыць у ім сродак умацавання асабістай улады ў грамадстве, а значыць — маёмаснай дыферэнцыяцыі і сацыяльнай няроўнасці. Расійскі гісторык Васілій Ключэўскі меркаваў, што «эканамічны дабрабыт Кіеўскай Русі трымаўся на рабаўладанні нават у XII ст.»

У другой палове XX ст. у гістарыяграфіі ўсталявалася шаблоннае меркаванне, што сацыяльна-эканамічныя адносіны на Русі ў X—XIII ст. былі феадальнымі.

**На Русі пачатку XI ст. не проста дзейнічала, а была ўзаконеная кроўная помста.**

Усе акадэмічныя выданні «Гісторыі БССР» 1960—1970-х аднасілі фармаванне феадалізму ў Беларусі да IX ст. З пункта гледжання гістарычных фактаў гэта некарэктна.

Праўда, і ў Мінску знайшліся скептыкі. Выкладчыца Мінскага педінстытута Вера Гарамыкіна меркавала, што рабства на Русі нарадзілася дзякуючы з'яўленню лішку прадуктаў харчавання — калі палонных перасталі забіваць. А ў XI—XIII стст. яго змяніў феадалізм.

Ужо ў канцы XX ст. пецярбургскі даследчык І. Фраянаў сцвярджаў, што невялікія сядзібы-вотчыны Кіеўскай Русі грунтаваліся на рабскай і паўсвабоднай працы, а элементы феадальнай залежнасці з'явіліся ўжо пазней. Іншы пецярбургскі гісторык Дварнічэнка ідзе далей і піша, што ў Верхнім Паднягроўі і Падзвінні, у Полацкай і Смаленскай землях феадалізм раней за XIV—XV стст. наогул не склаўся.

### Крыніцы і роля рабства

Вядома, рабства на Русі не мела маштабаў антычнага. Але аказвала істотны ўплыў на жыццё грамадства.

Першапачаткова, у IX—X стст., асноўнай крыніцай рабства быў палон. І рабоў паспяхова прадавалі і перапрадавалі, пераважна ў Візантыю. Але з развіццём княскага і баярскага землеўладання для чэлядзі знаходзілася ўсё больш і больш працы на Русі, а ў некаторых рэгіёнах гэтага велізарнага абшару рабы пачыналі складаць канкурэнцыю свабодным людзям у апрацоўцы зямлі. Пасля паходу галіцка-валынскага князя Рамана за Нёман гэты валадар засяліў свае сёлы літоўскім палонам. А сярод мясцовага насельніцтва склалася непрыхільная да князя прымаўка: «Рамане, ліхім жывеш, літвой арэш».

Вядома, рабы гінулі ў ліку першых падчас нападаў, як гэта адбылося ў 1084 г. у Менску і яго ваколіцах. Тады Уладзімір Манамах разрабаваў горад, не пакінуўшы ў жывых «ні чалядзіна, ні скаціны».

У XI ст. саслоўе рабоў фармавалася ўжо не толькі з палонных, але і з суайчыннікаў, якія траплялі ў халопства за пазыкі, а таксама ў выніку шлюбаў свабодных з несвабоднымі. Таксама свабодны чалавек мог трапіць у рабства, калі займаў «халопскую» пасаду — цівуна ці ключніка. (Чалавек на такой пасадзе меў доступ да скарбаў гаспадара і асабістая залежнасць забяспечвала іх цэласць.) Менавіта таму некалі гордая Рагнеда заявіла, што не пойдзе замуж за «рабыніча» Уладзіміра, які быў сынам ключніцы Малушы.

Даследчыкі мяркуюць, што тэрмін «чэлядзь» з'явіўся раней за «халопа». Чэляддзю зваліся палонныя, захопленыя ў час войнаў, халопы ж былі з мясцовага люду.

Царкоўныя гісторыкі таксама сцвярджаюць, што на статус чэлядзі гуманізуючы ўплыў паступова аказвала хрысціянская царква. А з'яўленне вялікай колькасці рабоў з ліку суайчыннікаў таксама спрыяла таму, што на іх пашыраліся некаторыя спадчынныя і маёмасныя правы. Старабеларускае права XIII ст. будзе ўжо ведаць кару за згвалтаванне рабыні — адну грыўню срэбра «за сорам».

Канчаткова ж «рабскую спадчыну» «Рускай Праўды» на нашых землях здолела пераадолець толькі каралева Бона, якая ў першай палове XVI ст. правяла рэформу вялікакняскага дамена. У яе выніку з вёсак Вялікага Княства нарэшце знікла нявольніцтва.

**Што ж такое феадалізм і ці быў ён усё ж на нашых землях чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».**

## ФУТБОЛ

### На выходных адбудзецца 24-ы тур Чэмпіянату Беларусі па футболе

**24 верасня:** «Белшына» — БАТЭ. **25 верасня:** «Дынама» (Мінск) — «Дняпро», «Тарпеда-БЕЛАЗ» — «Дынама» (Брэст), «Шахцёр» — «Нёман», «Нафтан» — «Віцебск», «Гомель» — «Мінск».

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль Юрыя Башмета

**1 кастрычніка**, у Міжнародны дзень музыкі, адкрываецца фестываль Юрыя Башмета. Акдрыццё будзе адбывацца ў форме музычна-цыркавога шоу.

### Мамант

**1 і 2 кастрычніка ў Нацыянальнай школе прыгажосці (вул. Мельнікайтэ, 4)** адбудзецца фестываль сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант». Падчас фестывалю пройдуць конкурсныя паказы авангарднай моды, відэа-і бодзі-арта, а таксама гала-паказ лепшых калекцыяў.

### Незвычайная энцыклапедыя

**24 верасня а 19-й у Тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт-прэзентацыя кнігі «Незвычайная энцыклапедыя беларускіх музычных інструментаў».

### Месяц нямецкай літаратуры ў кнігарні «ЛогвінаЎ»

**У кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** працягваецца месяц нямецкай літаратуры. **26 верасня (панядзелак)** — Сустрэча са швейцарскім пісьменнікам Йенсам Нільзэнам. **Пачатак а 20-й.**

# БАТЭ — «Барселона»



28 верасня ў Мінск прыедзе наймацнейшая каманда ў свеце, сëлетні пераможца Лігі чэмпіёнаў і ўладальнік Суперкубка Еўропы. Каманда згуляе з БАТЭ на стадыёне «Дынама» ў рамках другога тура Лігі чэмпіёнаў. Пачатак у 21:45. У складзе «Барселоны» гуляюць найлепшыя футбалісты сучаснасці: аргенцінец Месі і іспанцы Хаві з Ін'естам. Не прапусціце.

## КАНЦЭРТЫ

### Музыка народаў свету

**28 верасня ў філармоніі** адбудзецца канцэрт «Музыка народаў свету» з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча. **Пачатак а 19-й.**

### Джаз-квартэт Андрэя Барылы

**28 верасня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Jazz:квартэт Андрэя Барыды Barilazz.

### Танцы-шманцы

**24 верасня ў клубе Re:public (вул. Прытыцкага, 62)** — «Танцы-шманцы». Бяруць удзел «Петля Пристрастия», «Разбітае Сэрца Пацана», Akute. **Пачатак а 18-й.**

### Канцэрт сімфанічнай музыкі

**У Вялікай зале філармоніі 22 верасня** выступае сімфанічны аркестр Зеленагурскай дзяржаўнай філармоніі (Польшча).Прагучаць творы С.Манюшкі, Ю.Вяняўскага, А.Дворжака, М.Карловіча, К.Шыманоўскага, П.Чайкоўскага. **Пачатак а 19-й.**

### Recha

**27 верасня ў паб-клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурта Recha. У ходзе выступу плануецца здзейсніць прэм'ерны паказ кліпа на песню «Гражына». **Пачатак у 19.00.**




### Вечар джазавых легендаў

**25 верасня ў бары «Каёт» (пр. Незалежнасці, 117а)** — вечар джазавых легендаў. **Пачатак а 20-й.**

### Этнапраект

**Хостэл «Джаз» (вул. Мазырская, 37а)** 24 верасня запрашае на «Польскі вечар» на прэзентацыю прац маладых дызайнераў з праекта Etnoprojekt. **Пачатак а 19-й.**

### Алесь Камоцкі

**22 верасня а 21-й у «Містралі» (вул. Валадарскага, 22)** — канцэрт Алеся Камоцкага.

## ВЫСТАВЫ

### Творы Міколы Купавы

**Да 24 верасня ў мастацкай галерэі «Беларт» (вул. Маркса, 4)** працуе выстава твораў Міколы Купавы. Гэтая выстава — прэзентацыя кнігі казак Уладзіміра Караткевіча «Лебядзіны скіт», якую аздобіў майстар. Выданне прысвечанае 80-годдзю пісьменніка, якое адзначалася ў 2010 г.

### XI стагоддзяў гісторыі Беларусі

**Мемарыяльны музей-майстэрня З.Азгура да 1 лістапада запрашае** на творчы праект «Modern + classic. Сучаснае мастацтва ў традыцыйным музеі. Скульптурны праект XI стагоддзяў гісторыі Беларусі».

### Муміі Егіпта

**У Гістарычным музеі да 2 кастрычніка** працягвае працаваць выстава «Вялікія муміі Егіпта». Выстава пазнаёміць вас з помнікамі гісторыка-культурнай спадчыны Старажытнага Егіпта, а таксама з уяўленнямі егіпцянаў аб замагільным свеце і муміфікацыі.

### Чурлёніс

**У Мастацкім музеі да 30 верасня** працуе выстава, прысвечаная 100-годдзю з дня смерці Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса. Творчасць Чурлёніса — сінтэз мастацтва і роздумаў на філасофскія, псіхалагічныя і рэлігійныя тэмы. У ягоных творах змяшаныя сімвалізм, рамантызм, сецэсія, ёсць рысы і абстракцыянізму.

## ТЭАТРЫ

### 21 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»

### 22 верасня

**Лялек** — «Шлях у нябёсы»
**Беларускай драматургіі** — «Няўваны госць»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

### 23 верасня

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 24 верасня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавац»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»

### 25 верасня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

### 26 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Оперы і балета** — «Тоска»

### 28 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 29 верасня

**Лялек** — «Вянчанне»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 30 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 1 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 2 кастрычніка

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Марная перасцярога»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

### Фестываль студэнцкіх тэатраў

**8-мы міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў** адбудзецца з 25 верасня да 1 кастрычніка ў Мінску. Праграма фестывалю:
**25 верасня,** унутраны дворык БДУ — «Бія-аб'ект» (Польшча). **Пачатак а 14-й.**
**26 верасня**, актавая зала Ліцэя БДУ — «Дзеці сэрца» (Ізраіль). **Пачатак а 15-й.**
**Тамсама а 17-й** — «Манеўры» (Нідэрланды).
**Тамсама ў 18.30** — «Чаканне» (Беларусь).
Актавая зала ДК Прафсаюзаў — «Цудоўны гарнітур» (Беларусь). **Пачатак а 20-й.**
**Тамсама ў 21.30** — «Дуэт адной жанчыны» (Беларусь).
**27 верасня**, актавая зала Ліцэя БДУ — «Цыяністы калій… з малаком ці без?» (Беларусь). **Пачатак а 15-й.**
**Тамсама а 19-й** — «Афарызм» (Беларусь).
**Тамсама а 22-й** — «Апошняе вар'яцтва» (Эстонія).
Актавая зала ДК Прафсаюзаў — «АРТ» (Беларусь). **Пачатак у 16.30.**
**Тамсама ў 20.30** — «Сон у летнюю ноч» (Славенія).
**28 верасня** ў актавай зале ДК Прафаюзаў — «У пылаючай цемры» (Латвія). **Пачатак а 15-й**.
**Тамсама ў 18.30** — «Ачаг над Рахатлукам», тут шмат сонцаў» (Харватыя). **Пачатак у 18.30.**
**Тамсама а 21-й** — «Толькі не гэта!» (Беларусь).
Актавая зала Ліцэя БДУ — «Вар'яцтва і фантазія» (Марока). **Пачатак а 17-й.**
**Тамсама ў 19.30** — «Вяртанне ў нікуды» (Украіна). **Пачатак у 19.30.**

## КІНО

### «Прыгажун» Швайгер становіцца татам

**Спакушальнік (Kokowääh).** Нямеччына, 2011, 123 хв.
**Рэжысёр:** Ціль Швайгер.
**Ролі выконваюць:** Ціль Швайгер, Эма Швайгер, Джасмін Джэрат, Сэмюэл Фінцы.
**Жанр:** Камедыйная меладрама.
**Адзнака:** 5,5 (з 10).

Кавалер Генры знаходзіць пад дзвярыма сваёй кватэры васьмігадовую Магдалену. Дзяўчынка — ягоная дачушка. Колішняя сяброўка Генры ўкацiла ў Нью-Ёрк, а афіцыйны бацька ад малой адмовіўся, калі даведаўся, што дзіця не ягонае. Герой стужкі вучыцца быць адказным татам.

Колішнія сэксуальныя авантуры «Прыгажуна» рашуча адсунутыя ўбок. На парадку дня куды важнейшыя прыгоды: накарміць дзіця (калі ў лядоўні мыш павесілася), разабрацца са школьнымі хуліганамі, высушыць патоплены дачушкай мабільнік (беспаспяхова).

Дзіцячыя грымасы мілыя, а высілкі Ціля Швайгера забаўляюць, хаця часта аднастайныя.

**Андрэй Расінскі**



# Незалежнасць ад БТ і АНТ

## Як падключыцца да спадарожнікавага тэлебачання?

Свавольства кабельных апаратараў, якія мяняюць каналы і іх частоты як пальчаткі, бясконцая прапаганда ў эфіры дзяржаўных тэлеканалаў і нізкі ўзровень сэрвісу прымушаюць беларусаў пераходзіць на спадарожнівае ТБ. «Вайна з талеркамі», якая вялася ў беларускіх гарадах некалькі гадоў таму, паспяхова скончана паразай уладаў.

Здаецца, больш ніякіх абмежаванняў да пераходу на лепшую якасць спадарожнікавай выявы няма, але большасць беларусаў усё яшчэ працягвае глядзець толькі тое, што дазваляе дзяржава.

«Наша Ніва» расказвае, як можна падключыцца да спадарожнікавага тэлебачання і колькі гэта каштуе.



« Вайна з «талеркамі» скончылася паразай уладаў.

### Цана пытання

Стэрэатып, што спадарожнікавае ТБ дарагое, мае права на жыццё. Усё ж базавае абсталяванне каштуе $200—500 у залежнасці ад мадэлі. Зрэшты, купляючы тэлевізар, вы плаціце як мінімум не менш... У «спадарожнікавы» камплект уваходзяць сама талерка з антэнай, канвертар і рэсівер, які пераўтварае сігнал у карцінку на экране. Яшчэ ад $40 давя-дзецца заплаціць устаноўшчыку. Вядома ж, можна паспрабаваць настроіць антэну самастойна і ашчадзіць грошы.

Перш чым выбіраць мадэль, трэба вызначыцца, якія каналы вы збіраецеся глядзець. На рынку прадстаўленыя некалькі самых папулярных прапаноў.

### Асноўныя платныя пакеты

**Трыкалор ТБ.** Тут можна знайсці набор з 90 расійскіх неадцэнзураных каналаў («Першы», НТВ, «Расія» і іншыя), але пазнавальных (Discovery, Animal Planet) і міжнародных спартыўных каналаў не сустрэць. Пакет лёгкі ў настройцы і мае невысокую абаненцкую плату — $20 за год. Бясплатна можна глядзець базавы пакет з 11 асноўных расійскіх каналаў (у тым ліку і ТНТ).

**Радуга ТБ.** Набор з 80 каналаў, пераважна расійскіх. Але транслююцца і папулярныя еўрапейскія спартыўныя, музычныя і пазнавальныя праграмы. Важнае ўдакладненне — няма любімага беларусамі ТНТ. Абаненцкая плата складае каля $100 за год.

**НТВ Плюс.** Легальная трансляцыя спадарожнікавага пакета на тэрыторыі Беларусі не ажыццяўляецца. Разам з тым, ніводнага прэцэдэнту, каб гледачы былі пакараныя штрафам, не было.

**Платформа HD.** Карцінку высокай якасці паказвае далёка не кожны тэлевізар. Але для тых, хто патраціў на вялікі экран $500—1000, варта задумацца пра адпаведныя каналы. Пакет «Платформа HD» уключае ў сябе 22 каналаў павышанай якасці і каля 20 агульнарасійскіх праграм у якасці бонуса. «Тэлепадарожжы», «Еўраспорт», «Кінапаказ» і іншыя каналы даступныя з фантастычна прыгожай якасцю, якую не сорамна паказаць і суседзям. Праўда, і кошт пакета высокі — $185 за год.

### Халява, сэр!

Некаторыя каналы можна глядзець і без абаненцкай платы. Гэта адкрытыя ўкраінскія, расійскія і да 1000 замежных праграм. Для іх прагляду патрэбны спецыяльны прымальнік з трох ці чатырох спадарожнікаўадначасова. Ён каштуе танней, чым камплекты для платных каналаў, усяго $100. Дарэчы, менавіта ў такім варыянце можна злавіць і незалежны «Белсат», і афіцыёзны «Беларусь ТВ».

**Ягор Марціновіч**

**Цэннік падключэння**

- Камплект з антэны і рэсівера — $100—500
- Праца спецыяліста па падключэнні — ад $40
- Штогадовая плата — $0—185

**Асноўныя магчымыя праблемы**

- Вокны выходзяць на поўнач, таму талерка не бачыць спадарожнік
- У дождж ці снег сігнал слабее
- Нельга падключыць некалькі тэлевізараў на адзін рэсівер

**Аўто**

# Новая машына ад 53 мільёнаў рублёў

## За такую суму можна набыць расійскую «Ладу».

Самы танны новы аўтамабіль на беларускім рынку — гэта Lada «сямёрка». Яна каштуе $6200, ці 53,4 мільёна рублёў (курс пераліку на момант напісання артыкулу — 8600). Тэрмін гарантыйнага абслугоўвання складае два гады ці 30 000 км прабегу. Бліжэйшая пастаўка ў Мінск чакаецца ў канцы верасня. У наяўнасці ёсць крыху даражэйшая ($7400 ці 64,1 мільёна рублёў) мадэль — Lada Samara з гарантыяй тры гады/50 000 км прабегу.

Самае таннае аўто ў салоне «Кітайскія аўтамабілі» — седан Chery M11 за $17 500. Магчыма частковая аплата ў валюце і рублях. Калі ж вы маеце ўсю суму ў валюце, можаце смела патрабаваць зніжку ад $100 і вышэй. Гарантыя на такі аўтамабіль — два гады/60 000 км.

Больш танная мадэль гэтага вытворцы — Great Wall Coolbear (кітайскі аналаг Toyota Scion), за $14 600 у базавай камплектацыі, прыедзе ў Беларусь напачатку 2012 года. Як паведаміла дылерка салона «Кітайскія аўтамабілі», з сакавіка гэтага года продаж аўто павялічыўся. А ўвядзенне новых мытаў на працу салона не паўплывала.

За новага «француза» давядзецца выкласці 13 100 еўра). Столькі каштуе Citroen Berlingo — найтаннейшы аўтамабіль салона «Вуацюр дэ Франс». Дастаўку абяцаюць цягам месяца. На зніжку пры аплаце валютай не разлічвайце: «Мы і так маем прыбытку менш тысячы з аўто», —адкрыў «сакрэт» супрацоўнік салона.



Нават на такі «цуд» трэба збіраць грошы два з паловай гады.

Іншыя аўтасалоны — BMW, Mercedes-Benz — наадварот, аплату ад грамадзян Беларусі бяруць толькі ў рублях. Валютай могуць разлічыцца жыхары Расіі. Таму ў першую чаргу пацікавяцца вашым грамадзянствам.

Што да коштаў на гэтыя «элітныя» маркі, то BMW 316 (самая танная мадэль) абыдзецца ў 28 тысяч еўра. З дастаўкай давядзецца пачакаць 2,5 месяца. А вось «Мерсэдэс» класа «B» ёсць па цане 31,5 тысячы еўра.

Для параўнання, патрыманы Citroen Berlingo (2006 г.) на рынку прапануюць па $9 000. BMW 316 (2003 г.) — $14 950, «Мерсэдэс» класа B (2006 г.) — $19 700.

Такім чынам, пакуль сярэдні заробак па краіне складае 1,8 мільёна рублёў, новенькае аўто за 120 мільёнаў рублёў для большасці беларусаў застаецца марай.

**Аксана Рудовіч**

**Навука**

# Білінгвізм развівае гнуткасць мыслення

## Мозг дзяцей з двухмоўных сем’яў лёгка прыстасоўваецца да любых моваў да 10—12 месяцаў.

Мозг дзяцей, аточаных людзьмі, якія гавораць на розных мовах, даўжэй застаецца гатовым да ўспрымання моў, чым мозг дзяцей, якія жывуць у аднамоўных сем’ях. Гэта дае ім значную перавагу, развіваючы гнуткасць мыслення.

Новае даследаванне паказала, што мозг дзяцей з двухмоўных сем’яў лёгка прыстасоўваецца да любых моваў да 10—12 месяцаў. У малых з сем’яў, дзе гавораць на адной мове, мозг быў успрымальны да засвойвання чужой мовы толькі да 6—9 месяцаў. Навукоўцы звязваюць гэта з вялікай разнастайнасцю слоў і гукаў, якія дзіця чуе ад нараджэння.

«Двухмоўныя дзеці дазнаюцца, што ў прадмета могуць быць дзве назвы, а затым вучацца плаўна пераходзіць з адной мовы на іншую, што з’яўляецца выдатным практыкаваннем для мозгу», — тлумачаць даследнікі.

Навукоўцы спадзяюцца, што вывучэнне механізмаў, якія дазваляюць малым дзеткам з лёгкасцю вывучаць мноства моў, дапамогуць у навучанні дарослых людзей замежных мовам.

**Delfi.lt**

## Прыватныя абвесткі

**ВІНШУЕМ**

**Віншуем** Вольгу і Мікалая Зайкіных з нараджэннем сына, а сястрычак — з брацікам. Сябры.

**Алену і Аляксея Валабуевых** з узяццем шлюбу. Прыгожых і разумных дзетак вам. Салігорцы.

**Аляксандра і Алену Цэванаў** віншуем з 30-годдзем сумеснага жыцця. Дзеці.

**ФЭСТ**

**Талькаўскі фэст** сёлета адбудзецца 2 кастрычніка. Збор у 12 гадзін ля клуба. Т.: (029) 377-99-59.

**ПРАДАМ**

**Прадам** прадметы посуду з японскага сервіза. Т.: (029) 276-15-98.

**ВУЛЛІ**

**Прадаюцца** новыя вуллі на 24 рамкі з пчоламі. Усяго вулляў — дзевяць. Арыенціровачны кошт аднаго — 115 долараў. Т.: (033) 634-32-01. Вадзім.

**КНІГІ**

**Прыму ў падарунак:** літаратуру, слоўнікі ВКЛ. 213800, г.Бабруйск, вул.Сікорскага, 1-15, асуджанаму Казачонку Сяргею Міхайлавічу.

**Куплю** кнігі Бахарэвіча і Акудовіча. Патрэбныя наступныя выданні: Альгерд Бахарэвіч: «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў», «Натуральная афарбоўка», «Ніякай літасці Валянціне Г.». Валянцін Акудовіч: «Дыялогі з Богам», «Разбурыць Парыж», «Мяне няма». Т.: 029-634-57-96. Максім. kazakov.maksim@gmail.com.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



СЯМЕЕ ПЕЧАНКО

**Пабачыць кароткае вяртанне вясны можна на вуліцы Савецкай у Заслаўі. Некалькі кветак на адной з вішняў зацвілі ў пачатку верасня.**



**У Мінску прайшоў конкурс касцюмаў з ежы. У ім удзельнічалі дзесяць каманд. Першае месца заняла сукенка з зефіру і пасцілы.**



**Міс Сусвету стала Лейла Лопес з Анголы. Конкурс прыгажосці праходзіў у Бразіліі. Уладальніца тытула «Міс Сусвет» атрымлівае ў часовае карыстанне дыядэму, а таксама кватэру ў Нью-Ёрку. Карона «Міс Сусвету» — твор ювелірнага мастацтва коштам звыш 120 тысяч даляраў, інкруставаны больш за 1000 каштоўнымі камянямі.**



**У парку Горкага зімаваць застаўся бусел. Жыхаркі суседніх з паркам дамоў падкармліваюць яго дэфіцытным мясам. Спецыялісты кажуць, што птушка можа ўзляцець. Тым не менш, у вырай бусел не спяшаецца, чым заклапочвае гараджан.**



## Анекдоты



* * *

— Чаму Лукашэнка так заклапочана выглядае?

— Бо ўзяў валютны крэдыт, каб сабраць дзіця ў школу, а цяпер не мае чым аддаваць.

* * *

У адной беларускай школе вучань першага класа Коля так палохаў настаўнікаў: «Вось выклічу бацьку ў школу!»

* * *

Паводле вынікаў сацыялагічнага апытання, самым папулярным друкаваным выданнем сярод народу застаюцца грошы.

* * *

Для ўмацавання Мытнага саюза трэба адразу пераходзіць на час Астаны, а не Масквы. Што за паўмеры?

* * *

Нацбанк папярэджвае: пашпарт павінен быць не старэй за дзесяць гадоў і мець не менш за дзве чыстыя старонкі ў катэгорыі «купля валюты».

* * *

— Гэта што, ляжачыя паліцэйскія ці што?

— Так.

— А чаму не пафарбаваныя?

— Яны ў цывільным.

* * *

— Што будзе, калі пабудаваць сацыялізм у Сахары?

— Праз некаторы час пачнуцца перабоі з пяском.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нечаканая смерць старшыні міністраў П.А.Сталыпіна паказвае яшчэ адзін лішні раз,** што дзяржаўнае жыццё не абапіраецца і не можа абапірацца на аднаго чалавека, нават калі ён і быў дужы, і здольны, і калі ўся ўлада была ў ягоных руках. Жыццё дзяржавы развіваецца паводле жалезных законаў, створаных сталеццямі. Вось чаму і пасля смерці Сталыпіна ўсё ідзе сваім парадкам, быццам нічога і не здарылася.

**«НН». №37—38. 1911.**

**У Нацбанку Беларусі спадзяюцца атрымаць другую частку стабілізацыйнага крэдыту з Расіі** — 3 мільярды расійскіх рублёў. За гэтую пазыку мы мусім ахвяраваць нацыянальнай валютай — расійскі ўрад мусіць зацвердзіць план пераходу на супольную грашовую адзінку. Пятро Пракаповіч кажа, што такі план з'явіцца да канца года.

**«НН». №38. 2001.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 20.09.2011.
Замова № 4533.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11035